Беларуская газэта
Naša Niva

# НАША НІВА

№5
студзень 1992
кошт 2 рублі



## Новая Культурная Сітуацыя



## Койданаўцы

Навэлі з аповесьці

А.Г.



### Іван

Іван сядзеў на зэдліку пасярод пакою й засяроджана пазіраў на ўласныя ногі. Белая, накрухмаленая да сінечы кашуля так напялася на Йванавым круглым жываце, што, здавалася, вось-вось гузікі ня вытрымаюць ды пакоцяцца па розных кутках. Бурачковы атласны гальштук ляжаў на сытым плячы, не раўнуючы, як сабачы язык. Загарэлую лысіну абсыпалі драбнюткія пацеркі поту. Пасястая шкарпэтка спраўна сядзела на ступаку. Іван паварушыў пальцамі другой босай нагі і ўздыхнуў так цяжка, нібыта зьбіраўся на пахаваньне, а не на вясельле да сваякоў. — Казік Кісялевіч выдаваў замуж дачку Гэлю.

— Бацька, што ты сядзіш? Мы чакаем, а ён сеў тут і ўздыхае, як той кабан у загарадцы, — Іванава жонка Міля падбегла да люстэрка й яшчэ раз, мо ўжо пяты, падфарбавала вусны.

— А йдзіце вы ўсе, ліха вашай матары. Не пайду я нікуды, — Іван забурчэў у падлогу. — Чорт зь ім, зь вясельлем. Абыйдуся.

— Бацька, а што ж гэта на цябе найшло? — са сьвяточнай і вясёлай Міля стала перапалоханая. — Толькі што зьбіраўся... Усе зьбіраліся йсьці. Падарункі на ганку стаяць. Дык што здарылася?

— Нічога. Не пайду, і ўсё. Не хачу. Перадумаў! — Іван, сьцягваючы праз галаву падобны да сабачага языка гальштук, ускудлаціў вянок сівых валасоў на патыліцы.

— А Божачка мой, звар'яцеў наш бацька!

Іван скамечыў гальштук і шпурнуў яго пад канапу.

Міля памкнулася ў сенцы і зь іх закрычала да сына ў двор:

— Алесь, сынок, хадзі ў хату.

Тым часам Іван пайшоў да канапы, лёг і заклаў рукі пад галаву.

Алесь заскочыў у пакой з такім выглядам, нібыта зьбіраўся ўбачыць зялёнага цмока пасярод хаты, а не роднага бацьку, які заплюшчыў вочы і ўдаваў, нібыта сьпіць.

Іван, вядома, ня спаў. Але будзе й такі выпадак, калі ён засьне, сам таго ня хочучы. Ён састарэе, пойдзе на пэньсію са свайго маторнага заводу, дзе вечарамі паціху, каб ня бачылі тыя, каму ня трэба, рабіў чыгунныя формы для пірагоў. У Койданаве гэта былі найлепшыя формы. І ў сыботу перад Вялікаднем усё мястэчка згадвала добрым словам Івана Кубло.

Але аднойчы Іван, сам таго ня хочучы, заснуў.

— А дзе бацька? — спытаў тады Алесь у маці.

— Можа, на двор пайшоў, — спакойна адказала Міля.

Хата ў Івана была невялікая: калідор, кухня і тры пакоі. Гэта пазьней, калі

*(Працяг на старонцы 4)*

# Новая Культурная Сітуацыя

Сяргей Паўлоўскі

Фэномэн культуры падобны да фэномэну хлеба. Гэта фэномэн нормы.

Але ці гэтага мы хацелі?

Прамаўляючы: кепска было, ёсьць і кепска будзе, — мы хацелі больш беларушчыны. Мы цешыліся кожнай зьбеларушчанай школе і грамадзкаму інстытуту, які пераходзіў на беларускую мову.

Гэта была ўся нацыянальная мара — беларуская Беларусь.

Цяпер жа найменшая канкрэтызацыя гэтае мары разводзіць нас у розныя бакі.

Прагматычная рэальнасьць мае свае законы будаваньня беларускае Беларусі.

Беларуская культура ня стане грамадзкай зьявай ад таго толькі, што ўсе школы й дзяржаўныя інстытуты будуць пераведзеныя на беларускую мову.

Рэч ня ў тым, што беларуская культура недасканалая ці недапасоўная, ці што народ цураецца свае культуры.

Рэч у тым, што школы й дзяржаўныя інстытуты — гэта толькі спадарожнікі культуры. Фэномэн жа культуры выяўляецца ў тым, што яна становіцца грамадзкай зьявай сама.

Нацыянальная культура — гэта зьява сьветапогляду нацыі, якая бярэцца зь яго, вяртаецца яму й прысвойваецца ім.

Не прысвойваецца не свая культура, альбо тое, што ня ёсьць культурай. Перш, чым прысвоіць не сваю культуру, народу трэба было б прысвоіць чужы сьветапогляд.

Тое, што рабілася ў Расеі пасьля 17-га году, — было спробай свайго, расейскага тыпу цывілізацыі і культуры.

Спроба беларускай савецкай культуры была арганічнай часткай гэтае спробы, і як самакаштоўная зьява разглядацца ня можа.

У цэлым беларуская савецкая культура ня стала для беларускага народу сваёй, таму што будавалася на традыцыйным расейскім сьветапоглядзе. Пэўныя здабыткі ў галіне сацыяльных мэдытацыяў — гэта вяршыня культуры, якая ня стала сваёй.

Пэўныя эстэтычныя здабыткі проста не даходзілі да народу.

Пра тое, што беларуская культура сёньня ня ёсьць грамадзкай зьявай, найперш сьведчыць адсутнасьць у ёй калектыўных жанраў творчасьці: кіно, тэатру, TV...

Беларуская постсавецкая (найперш «адраджэнская») культура таксама не прысвойваецца, бо яе ўнутраны знак — мінус — застаўся ранейшы. Чаму?

Сутнасьць культуры (нацыянальны сьветапогляд) не выяўляецца ані ў лубочна-манэрных скоках ды сьпевах сувэнірных ансамбляў, ані ў «крахах» ды «крызісах» мітынгоўцаў, ані ў «аптымістычных трагедыях» імітатараў публіцыстыкі, жывапісу, паэзіі... Калі яна й выяўляецца, дык у някідкай мудрасьці незапатрабаваных мысьляроў.

Можна знаходзіць у спадчыне, нацыянальным характары, у сабе розныя праявы самабытнасьці, але зь іх толькі сьцьвярджальныя становяцца культурай — самасьцьверджаньнем нацыі.

Невуцтва, паняволенасьць, «сарамяжлівасьць» могуць быць адметнымі рысамі чалавека ці пэрсанажа, але ніколі яшчэ яны не ставалі адзнакамі самабытнасьці нацыі.

Вызначэньне сьцьвярджальнага ў кожнай сітуацыі жыцьця патрабуе іншай, адэкватнай праграмы.

Увогуле можна сказаць: «ты цёмны, сьляпы, быццам крот», «цябе залье крывіцкі рух», «падымайся зь нізін». Але ўсё гэта — самапрыніжэньне, прароцтва і заклік, — аднамернае, як сьмерць.

Нацыянальнае адраджэньне ня стане дамінантай культуры (а культура — грамадзкай зьявай), пакуль яно аднамернае, як сьмерць.

Жыцьцё тчэцца з тысячаў рознакалёрных нітак.

Беларуская культура ня сьцьвердзіла сябе ў сьвеце, бо не сьцьвярджала, а адмаўляла.

Няшчасны, бедны, забіты, паняволены, цёмны, апатычны, зьнямоглы народ... У адмаўленьні былі знаходкі псыхалягізму, віртуёзнасьць стылю, тут спаборнічалі таленты.

Адмовіўшы, беларуская культура дзяжурнай фразай кліча свой адмоўлены народ падняцца. I падымаецца само адмаўленьне.

Няшчасны, цёмны і апатычны сам ніколі гэткім сябе не лічыў. Кожны думаў пра сваю надзею.

Патэтыка самаадмаўленьня дае сякія-такія пазыцыі, але толькі сякія-такія.

Слабыя пазыцыі адразу распадаюцца на апазыцыі, апазыцыі — у апазыцыі адна да аднае.

Потым некаторыя апазыцыі могуць зьмяніць знак «мінус» на знак «плюс». Для гэтага патрэбныя сродкі й пэўнае пашырэньне сьветапогляду, г.зн., гатоўнасьць зьмяніць знак.

Пра тое, што такой гатоўнасьці няма, сьведчыць перавага па-над усім антыпатый і характараў. Так настае час сварак. Эсдэкі ня любяць бэнээфаўцаў адно таму, што яны эсдэкі, і наадварот.

Толькі ў пашыраным сьветапоглядзе знаходзіцца мейсца сьцьвярджальнаму знаку, які адразу разрастаецца ў дамінанту. Усялякае адмаўленьне адыходзіць на пэрыфэрыю.

Кожны зьдзяйсьняе свой жыцьцёвы праект.

Жыцьцёвыя праекты кантактуюць у жыцьцёвых сітуацыях. Іх тло — краявід.

Беларуская культура не распрацоўвае жыцьцёвыя праекты і сітуацыі, яна ўжо не стварае самабытныя беларускія краявіды.

Тое, чаго ня робіць беларуская культура, — ёсьць нормай культуры, празь якую самасьцьвярджаюцца нацыянальны сьветапогляд і мова.

Свая культура — гэта здаровы прадукт, а ня мроя пра «далікатэс» ці галас пра «голад».

Мроі й галас — маргіналіі, апазыцыі. Яны будуць заўсёды, але на пэрыфэрыі здаровага прадукту, фэномэн якога ў тым, што ён жыцьцёва неабходны, ён не прыядаецца й не выклікае гідлівасьць, яго ня трэба рэклямаваць, яму ня трэба вучыць. Ён засвойваецца штодня «сам».

Фэномэн культуры нагадвае фэномэн хлеба.



Здымак Алены Адамчык.

Блікі сонца ласкава краналі яе ільсьняную паверхню. А прыгробся б сюды які бульдозер, зрабіў бы мэліярацыю — праз пальцы рэчачку можна было б прапусьціць, калі б зусім ня высахла. Не дабраліся яшчэ палескія мехкалёны да Віцебшчыны.

I вось адступілі вербы, скончыліся людзкія агароды, а рэчка саскочыла сабе ў сінюю роўнядзь і згубілася ў ёй. Далёка насупраць — другі бераг. Паміж невысокімі ўзгоркамі ляжыць ужо колькі тысяч гадоў сіняя лінза вады. Сьвежасьцю й вечнасьцю патыхнула на мяне. Вада, як і лес, ды яшчэ неба разам зь імі, падказваюць чалавеку ягонае мейсца ў гэтым сьвеце.

Мабыць, і ён прыходзіў сюды. Дзякаваў Богу за зямную прыгажосьць, стаяў у захапленьні, як зараз стаю я... Ад касьцёла, паўз ручай, гэтым жа шляхам... Калі, вядома, ня быў ужо зусім хворы.

Я сеў на траву й глядзеў на гусей, што ярка-белымі плямамі рухаліся па берагавым аксаміце, на дзяцей, што калупаліся ў пяску на беразе каля перавернутага чаўна. Ластаўкі ціўкалі навокал, а над возерам, нібы чыесьці душы, лёталі белыя кірлі.

I чаго я не пайшоў у ксяндзы?

Файнае гэта мястэчка — Сянно.

* * *

Я пашыбаваў назад, паўз пляц, разбураны касьцёл і кляштар, па вуліцы, якую паказалі мне дзяды. Нейкае спадзяваньне кволілася, — а раптам гэты «просты» ксёндз захацеў легчы разам са сваімі парахвіянамі? Прайшоў каля ўлады й каля пошты, каля банку й каля крамы. Местачковыя хаты — гэта ня вёска. I дзьверы не туды, і кветак болей, і на падворку больш парадак.

Я цягнуўся па гарачым асфальце ды згадваў, як там Зязюля пісаў пра мястэчка. Ня ўздумаў ані радка. I толькі цяпер, за сталом, выцягнуўшы змацаваныя сашчапкаю аркушыкі, знайшоў вершык, пра які думаў той парою ў Сяньне:

*Цераз шлях пачтовы*
*Палыскнула рэчка...*
*Відны ўжо будовы*
*Роднаго мястэчка.*

*Накрыж праляцелі*
*Вуліцы ў будынку*
*I касьцёл у белі*
*Нідалёка рынку.*

*Чутачку ў аддалі*
*Цэрква, сынагога*
*Контуры ўказалі*
*I красы німнога.*

*Там вучэльня-школа,*
*Почта ліставая,*
*Карчма ды стадола,*
*Воласьць мейсца мае.*

*Вунь пакой прыёмны,*
*Фэльчар ды аптэка,*
*Магазын —*
*склад скромны*
*Усялякіх лекаў.*

*Ля званіцы — брамы,*
*Ту-ж пры агароджы*
*У рад пасталі крамы*
*Сьцерагчы Дом Божы.*

*Журавы ад студні*
*Высунулі дзюбы.*
*У дзень сьвяты ці будні*
*Говар тут нялюбы.*

*Пояць быдло, коні,*
*Абліваюць сьвіньні,*
*Скрып асьверу тоне*
*У гомані і гіне.*

*Ціўкат верабейкі*
*Чуецца ў прасторы,*
*Бытцам солад нейкі*
*Ля душы у горы.*

*Міла пераехаць*
*Праз сваё мястэчка...*
*Тут саломы вехаць*
*Маніць, вабіць рэчка.*

*У мяйсцовым стылю*
*Хаты збудаваны;*
*Іх з сабой злучылі*
*Густыя парканы.*

*Меніцца у воку*
*Места дарагое*
*I тужу здалёку*
*Неяк да яго я.*

Нясьпешнасьць і раўнавага. Вершык псыхічна здаровага чалавека, які любіць свой край і свой народ, і жыцьцё. Я думаю, што добра было б, каб вершы Зязюлі вучылі напамяць у школе.

Але вось вулка вывела мяне за мястэчка, скінула зь сябе гарачы асфальт і пацягнулася ружоваю стужкай да нябачных паселішчаў. Зьлева ад мяне — яшчэ адно возера. Меншае за першае й не такое прыгожае. Побач нейкія сучасныя жоўтыя кар'еры, заліты асфальтам шлях і яшчэ штосьці, што не кладзецца адразу на вока. А справа ад гасьцінца на ўзгорку — зарослыя могілкі. Сюды я і йду.

Могілкі невялікія. А хавалі каталікоў з усіх ваколіц, пра што гавораць польскія надпісы на крыжах. Я хаджу ад аднае магілкі да другой. Учытваюся. У тутэйшым каталіцтве — частка культуры нашага народу. Не ўберажоная, аддадзеная хцівым заходнім суседзям. Для «братоў» і з захаду, і з усходу беларускі ксёндз быў страшнейшы за чуму. Мо' таму па вайне ў нас іх амаль і не засталося. Цкавалі адныя й другія. А тых, хто мог бы абараніць, не было.

* * *

Мне заўсёды цікава на старых могілках. Хоць падсьвядомае жаданьне цісьне душу — хутчэй бы пайсьці адсюль, дзе ляжаць мёртвымі столькі людзей. Магчыма, гэта толькі чалавечая ўласьцівасьць — усё хутка забываць. Прыродная легкадумнасьць дазваляе нам вось так бадзяцца па могілках. Мая маладая істота больш настроеная на разгляд старых каваных крыжоў, чым на думкі пра тых, хто ляжыць пад зямлёю. Праўда, часам мне становіцца непамысна, калі мушу таптацца па ледзь прыкметных капцах...

Крыж за крыжам, камень за каменем я перагледзеў старую частку могілак. Надпісу *АСТРАМОВІЧ* не знайшоў.

Я прылёг на высокім схіле кладзішча, між кустоўя, на дробным чабары. Рукі мае былі ў чабары, вочы глядзелі ў сіняе неба, а ў галаве круцілася: вось я ляжу тут, часова пакуль, побач з маімі землякамі. Якія яны былі людзі — благія, добрыя, любілі гэтую зямлю ці не — іншая справа. Я задрамаў на імгненьне, яднаючыся зь імі і зь зямлёю. Нібы маё цела распусьцілася ў пяску і зьнікла. Толькі ясная, чыстая, не затлумёная мігатлівымі думкамі сьвядомасьць завісла ў цішыні...

Загула на дарозе машына й пабудзіла мяне. Час вяртацца і з могілак, і зь Сянна.

Калі-небудзь я ўсё ж убачу дошку з барэльефам Зязюлі на Сеньненскім кляштары.

## З.К.
### Чатыры вершы

* * *

*Як мэтэор, што падае зь нябёс,*
*Згарае ўшчэнт у час свайго падзеньня*
*Ці трушчыцца ў маўклівае каменьне*
*І траціць сілу, што з сабою нёс, —*

*Так чалавек, што хоча сваіх кроз*
*І мар убачыць хуткае зьдзяйсьненьне,*
*Ляціць да іх на ветразях натхненьня,*
*І ўрэшце сустракае той жа лёс.*

*Так чалавецтва ўсё: ліхі экспрэс*
*Нясе яго з разгонам у прагрэс,*
*Гараць у топцы дровы-пакаленьні,*
*І ўжо няма як павярнуць назад —*
*Туды, дзе Дрэва, і туды, дзе Сад,*
*І не спыніць чароўнага імгненьня.*

* * *

*Ці так даўно, здаецца, бацяны*
*Дзіцё малое падарылі хаце,*
*А ўжо няма ў таго дзіцяці маці,*
*І ўжо яно, сівое, — ля труны.*

*Ці так даўно, здаецца, сьвет зямны*
*Сваю маўклівасьць нежывую страціў,*
*А ўжо равуць паўсюль ліхія раці*
*І сеюць сьмерць у полымі вайны.*

*Зямная куля куляю сьвіцца*
*Даводзіць да лягічнага канца*
*Закон прыроды жорстка недарэчны,*

*Які паслаў нам лёс, як знак бяды:*
*Усё жывое — гіне назаўжды,*
*І толькі нежывое жыцьме вечна.*

**Ваўкі і авечкі**

*Вые воўк галодны. З пашчы*
*Пара прэ ў паветра. Сьвішча*
*Ў голым гольлі вецер. Пушча*
*Ўночы сажай крые сьнег.*

*Ветах скрозь вяхоцьце хмараў*
*Срэбра лье ваўку на шкуру,*
*Вяжа воўну з поўсьці зьвера,*
*Ды чуваць сабачы брэх:*

*Зьвер стаіўся недзе блізка,*
*У хмызах залёг на ўзьлеску,*
*І застыла ў страху вёска,*
*У кашарах ціхі енк.*

*Гаспадар бярэ набоі,*
*Ён авечак абароніць,*
*Воўк нічога ім ня зробіць.*
*Іх парэжа чалавек.*

# Койданаўцы

*(Працяг са старонкі 1)*

ажэніцца Алесь, зробяць прыбудову з асобным уваходам, а на той час згубіцца ў хаце было проста немагчыма. Міля з Алесем не на жарт спалохаліся. Быў бацька, тупаў-тупаў па хаце — і раптам ня стала. Гэта ж ня кот, што зашыецца за шафу, і ты шукай не шукай, а ня знойдзеш, пакуль сам на малако ня выйдзе. І не вавёрка, якую трымала Іванава суседка цётка Косьця. Вавёрка была надзіва шкадлівая.

Аднаго разу, зьвечара, Косьця выбрала кошык яблыкаў, каб нараніцу завезьці прадаць. Яблыкі выбірала круглейшыя, сакаўныя, без чарваточынак. А ўначы вавёрка ўзяла й параскідала іх па ўсёй хаце. І каб жа толькі параскідала, а то ж яшчэ й панадкусвала кожны яблык. Раніцай Косьця зьбірала яблыкі й кляла сваю вавёрку. А тая, стаіўшыся за абразом, цікавала. Вавёрку Косьця набіла венікам.

Але тое вавёрка... А дзе ж падзеўся Іван?

Маці з сынам абшукалі ўсю хату, пакуль Алесь не здагадаўся зазірнуць у вузкую шчыліну пад канапаю. Там ён і ўбачыў бацькавы ногі. Непаразуменьне прайшло толькі тады, як выцягнулі бацьку на сярэдзіну пакоя, а за ім дасталі з-пад канапы пусты слоік, што патыхаў самагонкай. Іван любіў выпіць, а Міля не давала. Тады й была прыдумана ды абсталявана схованка. Пакуль усе глядзелі тэлевізар, Іван ішоў сабе ў залю, залазіў пад канапу і праз гумовы шланг ад пульвілізатара высмоктваў са слоіка грамаў са сто. Але на той раз доза атрымалася большая, і ён сам не заўважыў, як заснуў. Дый старасьць надыходзіла, сілы ня тыя.

Вось у маладосьці, Іван сам казаў, мог выпіць вядро. Асабліва шмат давялося выпіць, калі служыў у ахове Маскоўскага крамля. Грошай ахоўнікам амаль не давалі, але добра кармілі й налівалі, колькі захочаш. І хлопцы, маладыя, здаровыя, пілі.

Пра НКВД Іван гаварыць не любіў. А ніхто, зрэшты, тады й не цікавіўся ў Койданаве тым НКВД. Усе ж недзе служылі, недзе ваявалі...

Гэта цяпер, калі я буду праходзіць паўз Іванаў сад, а Алесь будзе закладаць падмурак пад гараж, мы загаворым пра Дзяржынскага, у гонар якога й пераназвалі Койданава ў 1933 годзе. Зрэшты, і Койданава не першапачатковы назоў гарадка, раней яго называлі Крутагор'е. Мы загаворым пра НКВД, і Алесь скажа:

— Шкада, бацька памёр, а то паказаў бы яму газэты, дзе пра НКВД пішуць і пра Дзяржынскага. Цікава, што б ён на гэта сказаў?

Іван Кубло памёр раней, чым беларускія газэты пачалі друкаваць матэрыялы пра масавыя забойствы.

Апошні раз я сустрэў Івана каля весьнічак. Ішоў паўз ягоны двор, а ён якраз выходзіў на вуліцу ў сваім чорным скураным палітоне, шыракаполым капелюшы й наваксаваных да мэталёвага бляску хромавых ботах. Пад пахаю ён сьціскаў вялікі папяровы пакунак.

— Што гэта ў Вас пад пахаю, дзядзька Іван? — замест прывітаньня спытаў я.

— Каміля паслала сала прадаць.

— А ці добрае сала?

— Ты што, ня бачыш? — дзядзька закрыўдаваў. — На чатыры пальцы. Калі добра прадасца, дык і бутэльку сабе куплю.

Гэта апошняе, што я пачуў ад Івана, які ўсё ж добра гульнуў на вясельлі Казікавай Гэлі.

Але спачатку ён ляжаў на канапе і ўдаваў, нібыта сьпіць. Міля й Алесь стаялі пасярод хаты й ніяк не маглі зразумець, што ж такое здарылася, пакуль Алесь не спытаў:

— Тата, а чаму гэта Вы босы?

— Таму што шкарпэтка згубілася, — Іван адказаў, але вачэй не расплюшчыў.

— І з-за такой драбязы ўвесь гвалт? А Божачкі вы мае, ды знойдзем зараз тваю шкарпэтку. — Міля адчыніла шафу й пачала ператрасаць у шуфлядзе з панчохамі.

— Няма там, — Іван спусьціў ногі з канапы. — Я ўжо два разы ўсю шафу перамацаў.

— А можа раней дзе згубілася? Можа маці, калі мыла, дзе на двары пакінула? — разважаў Алесь.

— Ды ў тым і рэч, што абедзьве ў руках трымаў, адну я надзеў, а другую як той чорт схапіў, — Іван мо ўжо трэйці раз зірнуў пад канапу, але, акрамя свайго гальштука, нічога ня ўбачыў.

Алесь зьняў валікі з канапы, але дарэмна. Міля прынесла венік ды выграбла ўвесь пыл з-пад буфэту, шафы і ложка, але ўсё дарма. Алесь разабраў ложак, а калі засьцілаў, мармытаў праклёны. Шукалі доўга, шукалі паўсюль, нават зазірнулі ў кубелец з салам. Сям'я Кубло ўвайшла ў пошукавы азарт: адчыняліся й зачыняліся, а потым зноў адчыняліся шафы, буфэт, стол, сэрвант, сьцягваліся й сьцяліліся абрусы й покрывы, выварочваліся кішэні пінжакоў, жакетаў, портак і палітонаў, перастаўляўся абутак...

Раптам вялікі кутні гадзіньнік з латунным цыфэрблятам і вялікімі, на ланцужках, гірамі заскрыгатаў і ўдарыў — вясельле пачалося.

— Бацька, ды надзеньце Вы другія шкарпэткі, — Алесь нібыта сасну прахапіўся з пошукавага азарту. — Вунь іх у шафе поўная шуфляда, выбірайце, і пайшлі.

Іван выбраў пару новых, яшчэ з круглым папяровым цэтлікам, шкарпэтак, сеў на зэдлік і пачаў сьцягваць праклятую пасястую, з-за якой пачаўся ўвесь тарарам. Тут усе і зразумелі, дзе падзелася другая. Іван надзеў дзьве шкарпэткі на адну нагу.

Сьмяяліся доўга. Сьмяяліся Міля, Алесь і Іван. Сьмяялася ўсё вясельле, калі людзі даведаліся, з-за чаго спазьніліся Кубло. Сьмяяўся і я. І адзінае, пра што мне хацелася ведаць, і разумею, што ніколі не даведаюся: што думаў Іван, калі надзяваў дзьве шкарпэткі на адну нагу?

## Тоня

Тоня хварэла ўсё сваё доўгае жыцьцё на чыста беларускія хваробы: млявасьць, агульную слабасьць, нямогласьць і каўтун. Хрэстаматыйны каўтун убіўся ў Тоніны валасы яшчэ ў мінулым стагодзьдзі і недзе на самым пачатку нашага сыйшоў. Але ўспаміны аб ім прайшлі праз усе Тоніны размовы з койданаўскімі лекарамі.

— Дзетачкі вы мае, — пачынала яна сваё доўгае апавяданьне ў бальнічным кабінэце. — У мяне ж каўтун быў. З таго часу й баліць галава, не дакрануцца. І сьвет у вачох плыве, круціцца, усё вакол як туманам засланяе. І слабкасьць, і рукі дрыжаць, нічога рабіць не магу. Увесь час на сон хіліць. Так бы, здаецца, і не прачыналася зусім...

Лекараў на сваім вяку Тоня перабачыла безьліч. І ні адзін зь іх ніколі нават не засумняваўся ў сапраўднасьці хваробаў і ў шчырасьці скаргаў. А скаргі ціха плылі, як шырокая рэчка праз балота, закалыхвалі і пераконвалі... Пэўна, лекару было вельмі цікава слухаць тую сумную элегію.

Шкада, што не знайшлося на Беларусі фальклярыстаў — аматараў пазанатоўваць жаночыя скаргі на ўласнае здароўе. Менавіта жаночыя, бо ў мужчын яны каструбаватыя, неразгорнутыя, абсечаныя:

— Во!!! Палец цыркуляркаю адхапіла.

— Курыў, а вугельчык вазьмі ды ў вока пырсьні.

— Хварэю, учора перапіў.

А ў жанчын зусім інакш, у іх плаўна, зь інтрыгаю, з накатам, з кульмінацыяй. Яны так па-майстэрску складаюць свае апавяданьні, што лекар не заўважае, як робіцца сааўтарам і прагаворвае разьвязку, ставіць кропку — выдае такую патрэбную і доўгачаканую даведку на вызваленьне ад працы.

У Тоніных скаргах кульмінацыямі былі раптоўныя страты прытомнасьці й падзеньні.

— Я ж да Вас і не пайшла б ніколі, і ня стала б турбаваць, але баюся... Вось учора раніцай устала з ложка. Ледзь жа ўстала, ледзь прачнулася. Зрабіла два крокі і ня помню, што адбылося, што са мной здарылася. Адно чую голас у цемры. Вочы расплюшчваю — Камілька стаіць перапалоханая. Схілілася нада мною, а ў вачох — жах. Добры чалавек Камілька, я ў яе цяпер жыву на кватэры. Яна дапамагла ўстаць і сказала: «Што ж гэты Вы, цётачка, сябе зусім не шкадуеце, не глядзіце? Вось ужо і падаеце на падлогу без прытомнасьці, а да лекара ня сходзіце ніяк». Таму я й сабралася, і прыйшла сюды...

Твар у Тоні мучніста-белы, нібыта вылеплены зь цеста, а зморшчынкі на ім тонкія й глыбокія. Вочы бясколерныя, вадзяністыя, з драбнюткімі, што льняныя зярняткі, зрэнкамі. І таму, калі глядзіш на Тоню, само сабою ўзьнікае жаданьне засунуць яе галаву ў печ, каб твар набыў цёплы чалавечы румянец, а не патыхаў халаднаватай мярцьвянасьцю, за якую лекары выдавалі самыя каштоўныя даведкі.

Даведак у Тоні назьбіралася безьліч Яна гадзінамі перабірала, вывучала перачытвала гэты адзіны свой сапраўдны скарб. Паперы трымаліся ў глыбокай кардоннай пушцы з-пад зэфіру ў шакалядзе. У такіх ружовазалацістых з выціснутымі кветкамі на накрыўках пушках дзяўчынкі зазвычай складаюць віншавальныя паштоўкі з ружамі, цукерачныя абгорткі й фальку, шаўковыя стужкі й зусім маленечкіх лялек. Але ў Тоніным далёкім дзяцінстве не было гэткіх цацак, і яна на старасьці гадоў гуляла ў дзявочую папяровую гульню на поўным сур'ёзе. Гуляла і выйграла аднапакаёвую кватэру на першым паверсе цаглянага дома ў самым цэнтры Койданава.

**Формула-6**

*6*
*у чорным доме зь нізкім дахам*
*між сьцен парослых шэрым мохам*
*мярцьвяк што разьвітаўся з дыхам*
*цяпер разьвітаецца з духам*
*той дом апанаваны ліхам*
*і сьмерць у ім маўчаньню рэхам*

*5*
*на дрэве яблык гнілы сьпее*
*пад дрэвам раб яго чакае*
*нібыта воўк галодны вые*
*а з дрэва крук за ім цікуе*
*о гора вечнае людзкое*

*4*
*у змрочнай зале замест трона*
*стаіць адкрытая труна*
*народ вітае сьмерць тырана*
*інтрыгам вольная арэна*

*3*
*у летнім садзе ўсё прыгожа*
*гарыць пунсовай фарбай ружа*
*нажом яе садоўнік зрэжа*

*2*
*праз вакно дзяржаўнай дачы*
*ў сьвет глядзяць стальныя вочы*

*1*
*народ галодны шчэрыць рот*



*Малюнак Алеся Аблажэя*

У свае сто чатыры гады Тоня нарэшце перабралася з прыватнай кватэры ва ўласную. Усе казалі, што ёй пашанцавала, але я не хацеў бы сто чатыры гады пражыць у падсуседзях.. А ў Тоні якраз такі лёс — жыць у людзей і нідзе не працаваць ніводнага дня, бо яшчэ на самым пачатку нашага стагодзьдзя высьветлілася, што падымаць больш за кілёграм ёй нельга, нахіляцца няможна, хутка хадзіць, а тым больш бегаць нявартa, а займацца карыснай разумовай дзейнасьцю ўвогуле забараняецца. Апошні пункт у гэтым пераліку Тоня парушыла, але парушыла несьвядома, бо свае паэтычныя скаргі яна не лічыла за работу. А я дык якраз бачыў у Тоні таленавітую паэтку, якая ні чым іншым, як паэзіяй, адпрацоўвала самы мінімум патрэбнага ў гэтым жыцьці.

Тоніна паэзія мела яшчэ адну выразную рысу — рэлігійна містычную. Ва ўсіх яе апавяданьнях пра хваробы зіхацелі словы й выразы накшталт: даруй Божа, а Божачка ты наш, хай Бог дапаможа... А пры Тоніным ложку, дзе б яна ні жыла, заўсёды на тумбацы, на падваконьні ці проста на крэсьле стаялі маленькія каталіцкія абразы. Пры бясконцых пераездах-пераходах з хаты ў хату яны складаліся ў пушку для даведак.

А пераходаў за сто чатыры гады было столькі, што й сама Тоня не палічыць.

Вось у некага са знаёмых сына забралі ў войска, вызваліўся пакой, зь якога на гаспадароў пачынае павяваць халоднай проймаю страты. І яны не знаходзяць нічога лепшага, як запрасіць пажыць у іх Тоню. Ці ў каго іншага дачка выйшла замуж і зьехала з Койданава ў Менск ці куды далей. І зноў жа мейсца прапаноўвалася Тоні.

Так вось пасялілася яна ў Мілі Кубло, калі Алеся забралі служыць у Егіпце. А ў цёткі Косьці Тоня жыла пасьля таго, як Ада выйшла за вайскоўца і зьехала зь ім у Нямеччыну ажно на пяць гадоў. У цёткі Пэлі Тоня пражыла гадоў сем, бо даводзілася роднай сястрой Пэлінаму мужу Ясечку, які, дарэчы, быў старэйшы за Тоню й пражыў пад Койданаўскім небам сто тры гады.

Я ніколі ня чуў, каб Тоня скардзілася каму на лёс. Яна скардзілася толькі на хваробы. Можа, яна скардзілася й на што іншае пад час споведзі рубяжэвіцкім ксяндзам. Але пра тое ведае адзін Бог, бо старыя ксяндзы памерлі, а да новага, маладога, Тоня ня езьдзіць. А раней жа разы са два на год яна выбіралася да касьцёлу. Адкуль прывозіўся й ставіўся каля ложка новенькі яркі абразок. Звычайна — Маці Божая Дзева Марыя зь белым тварам і складзенымі на грудзях рукамі, такімі ж белымі й чыстымі, як і твар. У Тоні рукі таксама былі чыстыя й белыя, бо ня ведалі ні зямлі, ні пральнай дошкі, ні бруднага, завэдзганага тлушчам посуду.

Тоня жыве. І сто пяты год бачыць мацйовае койданаўскае неба.

### Вінак

Вінак вырошчваў памідоры. У Койданаве кожная сям'я нешта садзіла й нешта зьбірала. Памідорамі нікога ня зьдзівіш. Але памідоры Вінака Шавуры адрозьніваліся ад усіх астатніх у мястэчку, як сонца ад месяца.

Гаспадыні куплялі ў яго насеньне, распытвалі, як і што рабіць, у які дзень высаджваць і калі паліваць. Толькі, як яны не стараліся, а прыходзіў час — і самыя-самыя памідоры выраcталі ў Вінакавым агародзе.

Не скажу, што ў астатніх былі кепскія, і калі іх вывозілі на менскія рынкі, дык на прылаўках яны глядзеліся як мае быць і прадаваліся выдатна. А вось Вінаку й вывозіць не было чаго, усё Койданава прыходзіла купляць да яго.

Навошта купляць, калі свае пад бокам? Два крокі ад ганку ступіў, пахадзіў па градах, навыбіраў сьпялейшых ці, калі любіце, і цьвярдзейшых, намыў, нарэзаў, накрышыў цыбулі, пасаліў, напярчыў, кропу кінуў, заправіў алеем ці, калі хочаце, сьмятанаю, і стаўце на стол. Бярыце, частуйцеся, госьці дарагія. Усё так, але...

Як гавораць у Парыжы «жакет ад Кардэна», так у Койданаве казалі «памідоры ад Шавуры». І можаце ня верыць. Адно скажу, што Вінак быў не такі просты, як выглядаў з твару.

Выглядаў Шавура будзённа й шэра. Сівы, загарэлы па-сялянску, у старым пінжаку, надзетым на майку. Нагавіцы ў зямлі. Галёшы на босых нагах. І ўся будзённасьць і някідкасьць кампэнсавалася тварам. Гэта жарт, што Вінак меў просты твар. Калі каму цікава, дык можна знайсьці ў Беларускай Энцыкляпэдыі кандыдата ў члены Палітбюро ЦК КПСС з 1968 году Шавуру. Гэта, вядома, ня койданаўскі агароднік, але твар вельмі падобны. Вінак, калі б на яго надзець белую кашулю і ўзяць пад гальштук, быў бы рыхтык кандыдат, і вядома чаму — родныя браты.

Раней на розныя камуністычныя сьвяты на аскетычных фасадах урадавых пабудоў, акрамя чырвона-белых лёзунгаў і сьцягоў, вывешваліся манумэнтальныя палотны з тварамі Энгельса, Леніна, Маркса і ўсіх жывых членаў і кандыдатаў у члены Палітбюро ЦК КПСС. Жывыя (усе, як адзін) былі намаляваныя ў цёмных пінжаках, белых кашулях і пад гальштукам.

Сярод вохрыстых фатаграфічна-дакумэнтальных лікаў я заўсёды адшукваў койданаўскага земляроба і з гонарам адзначаў сваю далучанасьць да вельмі далёкай і вялікай справы.

Сваяцтва Вінака Шавуры не магло не абрасьці ў гарадку рознымі байкамі й казкамі, як у гародзе — колькі ні паліце, ні касіце, а крапіва куток свой знойдзе. І чаго толькі не плялі доўгія языкі!

Гандлярка Стэфа з крамы «Садавіна і гародніна» казала, што яе муж Волесь на ўласныя вочы бачыў, як Вінак закопваў на сваіх градах бляшанкі з золатам, якія яму на «чайцы» прывозіў родны маскоўскі брат.

— Ён таму й ня ходзіць нікуды са свайго двара ды поркаецца дзень і ноч на гародзе, — нашэптвала Стэфа даверлівым старым цёткам, — Юзэфе з Канстанцыяй. — І памідоры садзіць, каб замаскавацца. А сам крамлёўскае золата пільнуе.

Стэфу ўсе разумелі, бо Вінак адных памідораў прадаваў больш, чым яна ўсёй сваёй дзяржаўнай садавіны разам з гароднінай. Плян у Стэфчынай краме трымаўся толькі на тым, што на прыканцы месяца ёй прывозілі дзесятак скрынак зь «Вермутам» па сто дваццаць дзьве капейкі. А якія ў крамах памідоры, усе й так ведаюць.

*(Працяг на старонцы 6)*

# Лісты пра сучасную літаратуру

Франьцішак Эн.

2.

Вось мы й падышлі да галоўнага (?).

Усе нашыя размовы пра літаратуру застаюцца адно прыватнымі меркаваньнямі альбо цэхавымі прыхільнасьцямі, калі мы не выходзім за межы самое літаратуры й не зьвяртаемся да рэчаў фундамэнтальных і падставовых. Беларускае літаратуразнаўства надта доўга знаходзілася ў палоне «крывава-сур'ёзнага»* эмпірызму, калі на працягу незьлічоных старонак людзі высьвятляюць, што ўсё ж такі хацеў сказаць аўтар. Інтэлектуальныя арыенціры гэтай навукі выразна сфармуляваныя ў кнізе «Уводзіны ў літаратуразнаўства. Хрэстаматыя» (Менск, 1991 (!) г.): Маркс, Энгельс, Бялінскі... «выказваньні беларускіх пісьменьнікаў пра літаратуру». Для паўнаты канцэпцыі не хапае толькі Чапаева.

На такім інтэлектуальным тле зьяўленьне новае генэрацыі — «Майстроўня», «Бабілён», «Тутэйшыя» — было ўспрынятае як літаратурнае хуліганства, што патрабуе ў большай ступені адміністрацыйных захадаў, чым культуралягічнае рэфлексіі. Беларускія крытыкі падзяліліся на тых, хто «нападаў» і тых, хто «абараняў». Але ніхто ня ставіў за мэту РАЗУМЕНЬНЕ.

Зразумець — гэта значыць, усьвядоміць нешта як магчымасьць свайго ўласнага мысьленьня (жыцьця, сну, сьмерці).

Вядома, гэтая генэрацыя была для традыцыйна-савецкай беларушчыны генэрацыяй НЕМАГЧЫМАЙ. Зразумець яе было тым больш цяжка, што адныя й тыя людзі выглядалі (і былі) адначасова нацыяналістамі й касмапалітамі, гарадзкімі авангардыстамі й аматарамі фальклёру, палітызаванымі «нефармаламі» й гульцамі ў шкляныя пэрліны.

Ці можам мы казаць пра нешта агульнае, што лучыла б гэтых людзей у супольнасьць?

Першае, што выглядае на такое агульнае — усе яны «знайшліся ў беларускасьці». Але самая гэтая фраза ёсьць толькі знак пэўнага досьведу, які ў сваю чаргу мусіць быць расшыфраваны. Сапраўды: што значыць «знайшліся»? Што ёсьць беларускасьць?

Пытаньні выглядаюць наіўнымі, ды задаваць «наіўныя пытаньні» — ці не найбольшая сьмеласьць думкі. Тут трэба адкінуць «працэдуры мысьленьня» й тэрміналягічны апарат — і проста думаць. Гэтае «проста» — ня ёсьць нешта спрошчанае, у параўнаньні з чым «прафэсыйнае мысьленьне»** выступае як складанае. Проста — гэта значыць, напрасткі, — да сутнасьці.

«Знайсьціся» — гэта зусім ня тое, што «знайсьці». Знайсьці можна пэўную рэч альбо ідэю. Знайсьці можна шлях.

Знайсьціся ж — гэта значыць, знайсьці саміх сябе. Але мы самі ніколі ня дадзеныя сабе як наяўнае, як аб'ект. Мы знаходзім сябе, калі пачынаем углядацца ўсярэдзіну. На мове філязофіі такое ўгляданьне завецца рэфлексіяй.

Гэта тое, што распавядае нам сама мова. Пра ўсё гэта можна сказаць па-іншаму:

Недзе на мяжы васьмідзесятых пачала фармавацца генэрацыя, якая балюча адчула ўсю прывіднасьць імпэрскіх лябірынтаў, дзе ўсе разам былі згубленыя... Здавалася, адзіная сапраўды «рэальная» рэальнасьць — гэта канвульсіі Вялікага Савецкага Міту, пякельная машына якога перамолвала ўсё: філязофію, мастацтва, жыцьцё. Усе былі роўныя ў рабстве, бяздомнасьці й нянавісьці. З гэтай роўнасьці кожны знаходзіўся паасобку.

Беларушчына ўявілася гэтым людзям як патаемная духоўная сутнасьць, што нас лучыць, як салодкае духоўнае ядро, як лёс, як «ціхая ўлада магчымасьцяў». Беларушчына праменілася з будучыні...

Сама «тутэйшасьць» выглядала як прастора чыстай магчымасьці, як асаблівая сэнсаўтваральная сфэра, якая, «ня маючы нічога», тым ня менш здольная ўмясьціць усё. У эпоху нігілізму, у час адчужанасьці сацыяльных і культурных рытуалаў «тутэйшасьць» ёсьць вымярэньне надзвычайнай інтымнасьці, «свойскасьці» культуры й жыцьця.

«Тутэйшасьць» — гэта не ідэя й не псіхалягічная асаблівасьць беларусаў. Яна ня мае анічога агульнага з размазанасьцю вясковага досьведу па бясконцых «трылёгіях» беларускай савецкай літаратуры. «Тутэйшасьць» — своеасаблівы ахоўны інстынкт беларушчыны, разуменьне таго, што нават калі мы запоўненыя «чужым» — гэтае чужое ня можа натуральна вырастаць з традыцыі. У гэтым выпадку нам застаецца чыстая прастораваcьць — «тутэйшасьць».

Гэты мэтафізычны досьвед — ці ня самае каштоўнае ў генэрацыі «тутэйшых».

Сёньня, калі Беларускае адраджэньне ўсё больш прафэсіяналізуецца, асабліва відавочна, што ўзровень калектыўнага міту не зьяўляецца тым падмуркам, на якім можа існаваць і разьвівацца культура (нават калі гэты міт — беларускі). Наймацнейшы падмурак — гэта сама думка, рэфлексія.

Рэч ня ў тым, каб Вялікае княства перавесьці зь Літоўскага у Беларуска-літоўскае альбо ў Беларускае, а ў тым, каб яго зрабіць «сваім», «тутэйшым», каб чалавек успрымаў яго ў модусе інтымнай далучанасьці да традыцыі, а сябе ўспрымаў працягам гэтае традыцыі. Не пераход ад адной наяўнасьці да іншай, а такое размыканьне прасторы беларушчыны, каб мы маглі сказаць: беларускасьць — гэта свабода.

Толькі тады, калі мы самім сабе можам сказаць, што Беларусь — гэта свабода, мы будзем мець правы ўголас дадаць:

А будучыня — гэта Беларусь.

*Заўвагі аўтара:*

* Вызначэньне Яна Максімюка, перакладчыка «Уліса». Насуперак гэтай «крывавай сур'ёзнасьці» савецкае беларушчыны ён распавёў гісторыю перакладу Джойсавага твору, што выглядае культуралягічным апокрыфам, але ад гэтага не губляе сваёй цікавасьці. Самая ідэя перакласьці «Уліса» зьявілася ў славутага беластаччука пасьля гадавога (?) знаходжаньня ў польскім войску. Жылося яму кепска. Жыцьцё яго ня радавала. Часам здавалася, што ён — толькі сон, які сьніць Яруззльскі (варыянт: Пілсудзкі). Пачуцьцё абсурду ўзмацнілася ў першы дзень цывільнага жыцьця. Менавіта ў гэты дзень былі перакладзеныя першыя старонкі «Уліса»... Ergo sum.

** Думка ня мусіць быць прафэсыйнай. Яна мусіць быць істотнай.

# Койданаўцы

*(Працяг са старонкі 5)*

А вось калі цётка Пэля параўнала свае памідоры зь Вінакавымі, дык у яе нарадзілася думка, што Вінакаў брат прысылае ў Койданава амэрыканскае насеньне, бо толькі з амэрыканскіх зярнятак могуць вырастаць такія смачныя памідоры. Пэля пераканала сябе й спрабавала запэўніць іншых, што Шавура ўсім прадае адно насеньне, а сам садзіць другое.

Да таго дайшло, што Казікаву Гэлю паслалі на пошту даведацца, ці не атрымлівае часам Вінак пакункаў з Амэрыкі? Гэля праз былую аднаклясьніцу даведалася, што ніякіх пасылак з ЗША і Канады ў Койданава за апошні год не прыходзіла, а Вінак атрымлівае толькі часопісы па садаводztву й маскоўскую газэту «Праўда».

Цётку Пэлю такія зьвесткі не пераканалі:

— Ну і што? Калі не па пошце прыслаў, значыць, на машыне прывез!

Пярэчыць было бессэнсоўна.

Доўгая чорна-бліскавічная машына разы са два на год спынялася каля нефарбаванай Вінакавай брамы. Зь яе выскокваў, як чорцік з партабакі, увішны шафёр з тонкімі кэгэбісцкімі вусікамі. Адчыняліся другія дзьверцы, і на койданаўскую запыленую прыдарожную траву ступаў цьмянабліскучы вузкі чаравік Шавуры-малодшага.

Кандыдат у члены Палітбюро ЦК ішоў, высока ўзьняўшы паголенае падбародзьдзе, у братаву хату, а за ім, угінаючыся, бег, як ненавязаны цюцік, аддданы шафёр.

Пра што гаварылі браты Шавуры? Ці бралі яны чарку? Ці даваў малодшы старэйшаму грошы? Койданава ня ведала.

Услужлівы шафёр пакаваў у багажнік дзяржаўнае машыны скрынкі з памідорамі. Сьветлыя, з абгабляваных дошчачак, зграбныя, невысокія скрыні Шавура-партыец прывозіў з сабою. Койданаўцы казалі, што ён возіць памідоры ў Маскоўскі крэмль, каб частаваць Хрушчова, Брэжнева і ўсіх астатніх членаў Палітбюро ЦК КПСС. Сам ён столькі зьесьці ня мог, а вазіць памідоры на «чайцы», каб згнаіць і выкінуць — глупства. Так што Шавура ўсё ж некага частаваў.

Пры ўсім сваім скептычным стаўленьні да ўраду, койданаўцы паважалі Шавуру-малодшага, бо разумелі — не было б яго, і не было б памідораў ад Шавуры-старэйшага. Бо хто б тады дазволіў Вінаку прадаваць свае таматы налева й направа?

Хто гэта ў канцы 60-х мог даракаць беларусу занятку адасобленай уласьніцкай эканамічнай палітыкай? Хто б дазволіў яму садзіць памідоры й толькі памідоры, калі ўсе астатнія садзяць бульбу, рэпу, капусту, моркву, буракі, агуркі й бабы з гарохам? Ніхто!

А так вось былі ў Койданаве лепшыя на Беларусі памідоры. Я, ва ўсялякім разе, смачнейшых не каштаваў.

Баба Ядзя давала мне папяровы рубель, манетку ў дваццаць капеек і чысты, не з-пад бульбы, кошык.



# *Што чытаюць у Менску?*

Алесь Ас.

У № 3 НН ужо быў матэрыял пад такой назвай. Што чытаюць у Менску? Людзі культуры й людзі палітыкі й проста цікавыя людзі й тыя, хто мае непасрэднае дачыненьне да выданьня НН казалі пра тое, што яны чытаюць. Пасьля публікацыі я працягнуў сваё апытаньне.

З народным дэпутатам **Валяньцінам Голубевым** мы ехалі у Салігорск на мітынг. Ён — выступаць, я — распаўсюджваць *Свабоду* і *НН*. І я спытаў:

— Сп. Валяньцін, што Вы цяпер чытаеце?

А ён адказаў:

***— Аповесьць Кастуся Акулы «Змагарныя дарогі». Уражаньне самае станоўчае. Там ясна паказана, што беларусы, якія пайшлі змагацца ў беларускае войска, аднолькава не прыймалі як бальшавікоў, так і фашыстаў. Яны ставілі перада сабой тыя самыя мэты, што й БНР у 1918-м годзе: вольная, незалежная Беларусь з усімі атрыбутамі дзяржаўнасьці, у тым ліку і з войскам.***

* * *

З выдаўцом **Паўлам Жуком** мы сядзелі ў рэдакцыі *Свабоды*.

***— Прачытаў «Палёт над гняздом зязюлі» Кэна Кізі. Адвальна.***

* * *

**Ігар Бабкоў** днямі вярнуўся з Францыі:

***— Чытаю сваю памяць. Не магу паверыць, ці сапраўды гэта я пару дзён таму шпацыраваў па Парыжы й піў на кожным рагу каву?***

* * *

**Алеся Разанава** я выпадкова ўбачыў у кнігарні пісьменьніка.

***— Паглыбляюся ў тое, што калісьці ўжо чытаў. Новы час, і новы ракурс зьяўляецца. У кнігах бачыцца нешта іншае, што раней адыходзіла на другі плян. Магчыма, нешта зьмянілася ў маім зроку, магчыма ў часе, але гэтыя рэчы бачацца па-новаму, больш глыбокім чытаньне стала. А канкрэтна? Вяртаюся да папярэднікаў: Багушэвіч, Багдановіч, Купала, Цётка, Колас. Я не кажу, што іх прачытаў. Я іх чытаю.***

* * *

Зь **Янкам Брылём** мы размаўлялі ў фае Дома літаратараў.

***— Чытаю Мантэня. Раней толькі знаёміўся, а цяпер мне трохтомнік падаравалі. Вельмі цікава. Дый увогуле, магчыма, гэта ўзрост такі — стаміўся ад бэлетрыстыкі. Чытаю ўспаміны Шаламава, «Навамірскі дзёньнік» Кандратовіча (быў намесьнікам у Твардоўскага). З прэсы*** — Нашу Ніву, Грамаду. ***Новае пакаленьне, шмат энэргіі. Але нароўні са станоўчымі ёсьць і адмоўныя моманты. Калі ўжо ўзяліся за справу, трэба цалкам адчуваць адказнасьць, як яе адчувалі Купала, Колас, Луцкевічы, Ластоўскі.***

* * *

**Алесь Камоцкі,** перад прэзэнтацыяй *НН* на філфаку:

***— Чытаю дэтэктывы. Проста чытаю, усё, што дзе знаходжу. Ня памятаю ні назваў, ні аўтараў. У мяне такі цяжкі год, што нічога іншага чытаць не магу.***

* * *

Мастак **Фэлікс Янушкевіч:**

***— Чытаю амаль усю пэрыёдыку. Проста цікавы час зараз. Але актыўнасьць зьмяншаецца, і месяцаў праз 5-6 можна будзе зноў не чытаць прэсы. А яшчэ ўпершыню сустрэўся з творамі Папы Рымскага. Цікавы філёзаф, чытаецца прыемна. Перакладаю ягоную кніжку «Мужчына й жанчына». Цудоўная польская мова, моцна адрозьніваецца ад тае, да якой мы прызвычаіліся.***

* * *

Зь **Лявонам Вольскім** ("Мроя") мы размаўлялі па тэлефоне.

***— Чытаю Шайбака з Клімковічам «Каханку д'ябла». Толькі пачаў. А яшчэ «Тэатар парадоксу» — Бэкета, Ёнэску. Пра ўражаньні цяжка казаць, бо ведаю, што чытаю.***

* * *

Зь **Віктарам Чаропкам** мы пілі гарбату з булкамі.

***— Прачытаў Тэйлара «Першабытную культуру», Катлярэўскага «Пахавальныя абрады ў славянаў», Ігара Шафарэвіча «Сацыялізм як зьява сусьветнае гісторыі», Мар'яна Віжа «Лабірынт». Усё разам — урачыстае пахаваньне сацыялізму як зьявы беларускай гісторыі.***

Усе што-небудзь чытаюць...



— Папросіш Вінака, каб ён сам табе навыбіраў, — казала яна. — Ён прапануе выбіраць, а ты скажаш, лепей Вы самі навыбірайце.

У Вінакавай сьветлай хаце панаваў кіславата-салодкі востры памідорны водар. На вокны ня вешаліся фіранкі, і сонца вялікімі ромбамі ляжала на падлозе. У Вінака амаль не было мэблі, так — самае неабходнае — ложак, стол, крэслы. І паўсюль на разасланых газэтах у ромбах густога сьвятла і ў празрыстых блакітных ценях ляжалі, сьвяціліся сакаўной мякацьцю праз тонкую глянцавую скурку, чырванелі насьпелымі бакамі, зелянелі вострымі пупавінамі пладаножак, патыхалі летнім цяплом Шаўравы памідоры.

— Выбірай, – казаў гаспадар і працягваў узважваць на шалях, што стаялі на падлозе каля дзьвярэй, памідоры для дзьвюх дзяўчынак. Яны былі старэйшыя за мяне, і я іх ня ведаў. Пэўна, прыйшлі з другога канца Койданава ці зь вёскі, зь якіх-небудзь Макаўчыц ці з Бакінава.

Вінак пазвоньваў дробнымі гіркамі, састаўляў іх па росту каля плінтуса.

— Чаго не выбіраеш?

— Навыбірайце самі, калі ласка. У мяне грошай на тры кіляграмы...

І ён выбіраў і складаў на алюміневы сподак.

Падобныя да цацачных качак дзюбкі вагаў пачыналі скакаць, аж пакуль тая, дзе ляжалі памідоры, не плыла ўніз. Шавура акуратна перасыпаў памідоры ў мой кош.

Нёс я іх асьцярожна, гэта ж памідоры ад Шавуры.

Пазьней, ужо ў інстытуце, калі буду чытаць Басё, згадаецца Вінак. Вялікі японец па мянушцы Горкі Гарбуз сказаў вучням: «Хоку, і ніякіх іншых думак».

Так і ў Шавуры, не было іншых думак, акрамя салодкіх памідораў. Але ў Вінака была мара.

Аднойчы ён зайшоў у нашу хату па нейкую драбязу. Здаецца, дзед Броніс паабяцаў яму аддаць нашую старую спружыну на дзьверы... Не памятаю. Толькі дзеда не было. Мы з бабай Ядзяй вячэралі. Вінак адмовіўся сесьці за стол. Стоячы ў парозе, ён раптам сказаў, што хоча кінуць памідоры, бо думае паспрабаваць вырошчваць вінаград, але ніяк не зьбярэцца прадаць дом і пераехаць у Берасьцейскую вобласьць, бо там цяплей, чым у Койданаве. Баба не адгаворвала Вінака. Кожны чалавек павінен сам выбіраць, куды ехаць і што садзіць на сваёй зямлі.

Праз гады тры Вінак зьехаў спачатку на Берасьцейшчыну, а далей і ў Малдавію. Ці жыве ён там цяпер, у Койданаве ня ведаюць.

А для койданаўскіх памідораў насталі новыя часы, часы цяпліцаў і парнікоў, але ці можна параўнаць тамат з-пад поліэтыленавай плёнкі з памідорам, які рос і сьпеў на жывым сонцы?

А Г



Малюнкі Алега Аблажэя.

# Ордэн братоў-прапаведнікаў

**Алег Дзярновіч**

*У мінулым нумары* НН *мы пісалі пра тых, хто першы вырабіў ліквор «Бэнэдыктын». А цяпер — аповяд пра вынаходнікаў гульні ў даміно.*



У 12-е стагодзьдзе рымскі касьцёл уступіў у росквіце сваёй магутнасьці. Была створаная сапраўдная тэакратычная манархія з магутнай агульнаэўрапэйскай фінансавай базай, судовай сістэмай, разгалінаванай дыпляматычнай службай. Рымскія папы перамагалі нямецкіх імпэратараў, адлучалі ад касьцёлу каралёў францускага й ангельскага, накладалі на іхнія краіны інтэрдыкт. У вызначальным уплыве на грамадзкае жыцьцё была моц касьцёла, але ў гэтым жа былі й перадумовы стагнацыі.

Тым часам значна бюракратызаваныя структуры касьцёлу існавалі ўжо самі для сябе, душпастырства займала іх толькі дзеля фіскальнага інтарэсу. Распаўсюджваньня ерасяў у 12-13 ст. Аспрэчваючы асноўныя дагматы касьцёлу, альбігойцы, напрыклад, выпрацавалі досыць прывабную сацыяльную праграму, якая шмат у чым грунтавалася на ўраўняльніцкай псыхалёгіі.

Спэкулюючы на азлаблёнасьці плябейскіх элемэнтаў, альбігойцы магліператварыцца ў значную дэструктыўную сілу Эўропы. Колькасьць прыхільнікаў ерасі расла. Папы арганізоўвалі крыжовыя паходы, жорстка караючы адступнікаў. Але ў сфэры духоўнай гэтыя меры не маглі выправіць сітуацыю, спыніць разлад. Патрабавалася нейкае неардынарнае выйсьце. Рух за абнаўленьне каталіцкага касьцёлу пачаў распаўсюджвацца сярод саміх вернікаў, што выклікала рэформы й на арганізацыйным узроўні.

**Дамінік дэ Гусман** (1170-1221), нашчадак знакамітага шляхецкага роду Гішпаніі, нарадзіўся ў вельмі бурлівы для свае радзімы і ўвогуле для Эўропы час. Зь пераменным посьпехам ішла Рэканкіста (вызваленьне ад маўраў Пірэнэйскай паўвыспы), у суседняй Паўднёвай Францыі пашыраўся ўплыў альбігойцаў. Час рабіў людзей больш дынамічнымі, а падзеі актуалізавалі пытаньні веры. Хрысьціянства ж зьяўлялася для гішпанцаў сваёй самасьцю (узгадайма войны зь іншаверцамі). Але Дамінік быў чалавекам негвалтоўнага дзеяньня. Прыклад гэтага — заснаваньне ім у 1206 г. у Прулэ жаночага кляштару для перавернутых альбігойцаў.

Адчуўшы схільнасьці прапаведніка, Дамінік стварае суполку па-багаслоўску падрыхтаваных місыянэраў, на падставе якой і засноўвае ў 1215 г. Ордэн братоў-прапаведнікаў — Ordo Fratrum Praedicatorum, які часта называюць Дамініканскім.

Папярэднія кляштарныя законы былі прыстасаваныя да старой, пераважна аграрнай структуры фэадальнага грамадзтва. Дамініканы ж ствараліся як ордэн вандроўны, а адмаўленьне ад уласнасьці было іх першым абавязкам. Уводзіўся таксама цэлы шэраг пабытовых абмежаваньняў, напрыклад, дамініканы не ўжывалі мяса.

Уласны прыклад шмат значыў для міран, і дамініканы пайшлі ў шматлюдныя кварталы, пераходзячы з гораду ў горад. Так, у вадрозьненьне ад усходне-хрысьціянскага манаства, эўрапэйскія манахі ўсё больш адыходзілі ад сузіральнасьці, актыўна ўключаліся ў жыцьцё грамадзтва.

І ў наш край дамініканы патрапілі досыць рана. Першым каталіцкім біскупам пры вялікім князі Мяндоўгу быў дамініканскі манах Віт. Праўда, місія Віта была непрацяглая. Тым ня менш, тады ж (1250 г.) дамініканскі кляштар быў заснаваны ў Любчы. У 1320 г., пры вялікім князі Гэдыміне, кляштар перавялі ў Навагрудак.

Цяпер і надалей дзейнасьць дамініканаў па ўсёй Эўропе была сканцэнтраваная пераважна ў гарадох. Яшчэ ў 50-60-х гадох 13 ст. генэрал ордэна Умбэр дэ Роман сфармуляваў тры фактары перавагі працы ў горадзе над працаю ў вёсцы: 1. у горадзе казаньне найбольш эфэктыўнае з-за канцэнтрацыі ў ім насельніцтва; 2. маральнасьць у гараджан ніжэй, чым у вяскоўцаў; 3. праз гараджан можна ўзьдзейнічаць і на вяскоўцаў, якія бяруць з гараджан прыклад.

Дзеі ордэна ў Вялікім Княстве — яскравы прыклад ажыцьцяўленьня гэтых прынцыпаў. Усяго ў Старабеларускай дзяржаве існавала каля 90 дамініканскіх кляштараў. Большая частка іх была заснаваная ўжо ў 17 стагодзьдзі і зьвязана гэта з Контррэфармацыяй. На Беларусі й Літве такія кляштары йснавалі, да прыкладу, у наступных местах:

**Вільня**: Сьв. Духа і на Лукішках (заснаваныя адпаведна ў 1501 і 1642 гг.),
**Менск** (1615),
**Дзярэчын** (1618),
**Шклоў** (1619),
**Рэчыца** (1621),
**Астравец** (1622),
**Смаленск** (1622),
**Горадня** (1635),
**Зэмбін** (1640),
**Віцебск** (1642),
**Ворша** (1649),
**Васілішкі** (1659),
**Беліца** (1665),
**Пінск** (1666),
**Ельня** (1667),
**Ашмяны** (1667),
**Полацак** (1671),
**Нясьвіж** (1672),
**Чашнікі** (1674),
**Мсьціслаў** (1674),
**Ула** (1678),
**Слонім** (1680),
**Берасьце** (1680),
**Дунілавічы** (1682),
**Клецк** (1683),
**Заслаўе** (1684),
**Княжыцы** (1684),
**Пяскі** (1685),
**Ракаў** (1686),
**Трокі** (1688),
**Багданаў** (1691),
**Друя** (1697),
**Ляхавічы** (1700),
**Ушачы** (1716).

У 1647 годзе была ўтворана асобная літоўская правінцыя Сьвятога Анёла Ахоўніка.

Ад пачатку дамініканы вялікую ўвагу надавалі прамоўніцкім здольнасьцям і тэалягічнай падрыхтоўцы. Зь цягам часу гэты ордэн кантраляваў практычна ўсе тэалягічныя катэдры ўнівэрсытэтаў Эўропы. Дамініканы далі выбітных мысьляроў сярэднявечча. Імёны толькі Альбэрта Вялікага й Тамаша Аквінскага красамоўна сьведчаць пра гэта.

**Альбэрт Вялікі** (Albertus Magnus; 1206—1280) увёў у інтэлектуальны ўжытак усе працы Арыстоцеля (значны крок і для нашага часу) з уласнымі камэнтарамі. Сьцьвярджаючы стваранасьць матэрыі й часу, ён узаконіў у рамках схалястыкі арыстоцелеву фізыку зь яе вучэньнем пра непарыўнасьць матэрыі як асновы зьменаў.

**Тамаш Аквінскі** (Thomas Aquinas; 1225-1274) у сваіх знакамітых «Суме філязофіі» й «Суме тэалёгіі» падвёў вынікі тэоляга-рацыяналістычных пошукаў схалястыкі. Культуру здаровага сэнсу, упарадкаваньне натуральнага розуму, над якім надбудроўваецца ярус звышнатуральнае догмы, Тамаш Аквінскі сьледам за Альбэртам Вялікім знайшоў у Арыстоцеля. Доктар-дамініканін выводзіў быцьцё Бога з быцьця рэчаў. Сьв. Тамаш разглядаў быцьцё як першае з актуальных станоўшчаў. І ва ўсякай рэчы столькі быцьця, колькі ў ёй актуальнасьці. У сусьвеце сапраўды сутнасным у канечным выніку зьяўляецца індывідуум. Гэткі пэрсаналізм уяўляе сабой спэцыфіку тамісцкай (ад імя стваральніка) анталёгіі. Шырака выкарыстаўшы катэгарыяльны апарат Арыстоцеля, Сьв. Тамаш даў такім чынам рацыянальнае абгрунтаваньне быцьця Бога. У пазнаньні Бога — еднасьць Розуму й Веры.

Тамізм не адразу, але прыймаецца касьцёлам у якасьці дактрыны (1314 год, Вьенскі сабор). У 16-м стагодзьдзі ён быў актыўна падтрыманы езуітамі. Ужо ў нашым стагодзьдзі пазбавілі тамізм пэўнай статыкі Тэярд дэ Шардэн, К.Ранэр, Г.Вэттэр... Папа Ян Павал II — вядомы нэатаміст.

Плённасьць працы ордэна відаць і з колькасных паказчыкаў: у бібліятэцы Віленскага ўнівэрсытэту было да 300 кніг, напісаных дамініканамі. Гэты ж ордэн непасрэдна ўплываў на адукацыю. У нашым краі дамініканы стварылі павятовыя гімназіі ва Ўшачах, Нясьвіжы, Навагрудку (тут у 1808-1816 гг. вучыўся Адам Міцкевіч). У Горадні дамініканы ўтрымоўвалі сьвецкую гімназію, пры якой існаваў прыродны музэй. А пры Віленскім кляштары дзейнічалі вышэйшая калегія і дамініканскі шпіталь. Місійны характар дзейнасьці адбіваўся і на моўнай палітыцы дамініканаў. Пры кляштарах выкладаліся татарская і армянская мовы.

У канцы 18 ст., калі пачалося фармаваньне сучаснай беларушчыны, у Забельскай дамініканскай калегіі (а вёска Забель Верхнядзьвінскага раёну — гэта й сёньня лясны край) у 1789 г. вучні выканалі опэру «Апалён-заканадаўца, або Парнас рэфармаваны». Аўтарам опэры быў Міхал Цяцерскі, беларускі драматург, прафэсар рыторыкі й паэтыкі гэтай навучальнай установы, ён адзін зь першых пачаў уводзіць у творы беларускую мову. Музыку да опэры напісаў вучоны-дамініканін Рафаэль Вярдоцкі. Дарэчы, «Апалён-заканадаўца» цяпер адроджаны й мае досыць інтэнсыўнае тэатральнае жыцьцё.

Як апраналіся дамініканы? Яны насілі белае адзеньне, у час казаньня і ў горадзе накідвалі чорны каптур.

Дамініканскі ордэн на Беларусі й Літве быў скасаваны ў 1844 г. Апошні дамініканін Вялікага Княства памёр у Вільні ў 1864 г. ў кляштары кармэлітаў пры касьцёле Ўсіх Сьвятых.

Хто такія кармэліты? Пра гэта — іншым разам.



# Suslicus

*«Вось сымбаль твой, забыты краю родны!»*

На мяжы XIX—XX стагодзьдзяў у Новую Зэляндыю для паляваньня былі інтрадукаваныя ледзь ня ўсе віды аленяў з розных кантынэнтаў Зямлі. Ня маючы натуральных ворагаў, алені хутка распаўсюдзіліся й наносілі непапраўную шкоду рэліктавай флёры краю. Але пры тым сёньня новазэляндцы маюць такое паляваньне, пра якое могуць толькі марыць паляўнічыя на Беларусі.

Сусьлік — зусім не аб'ект для ловаў, ды й ніхто яго на Беларусь не завозіў. Косткі сусьліка вялікага (citellus major) былі выяўленыя пад час раскопак верхнепалеалітычнай стаянкі Бердыж у Чачэрскім раёне.

Сёньня ж рабы сусьлік (citellus suslicus) — звычайны тубылец у Верхнім Панямоньні, на Случчыне, Капыльшчыне, Навагрудчыне... Вялікае шкоды ад яго няма, бо селіцца ён на непрыдатных і абложных землях, там, дзе ёсьць які пагорак ці насып. Сілкуецца травой, дзікімі злакамі, а часам і казюркамі. Каб пад'есьці, сусьлік вылазіць пад вечар ці на сьвітаньні. Гэта вельмі палахлівы зьвярок. Калі-нікалі можна бачыць, як ён сьмешна стаіць пушыстым слупком, бы вартавы ля свае норкі. Пабачыўшы вас, першы дазорца сьвішча астатнім, і ўся калёнія вокамгненна зьнікае ў густым дзірване, хаваецца ў норкі.

Так яны й жывуць да верасьня, гойсаючы па сваім пагорку, назапашваюць тлушчу, каб пасьля спаць да вясны.

Нягледзячы на вялікі веснавы прыплод (ад трох да 10 сусьлянятаў), іх колькасьць ня надта й павялічваецца, — з-за атруты, якую лье на свае палі чалавек, з-за ласых драпежнікаў (каты, лісы, каршуны...).

Гэты невялікі грызун (да 26 см з хвастом і каля 300 грамаў вагі) мае жоўта-белую поўсьць на трыбушку і рудую, шэра-бурую ў белыя плямкі — на сьпіне, за што й быў прызваны рабым.

Наяўнасьць іх на Беларусі — парадокс для заагеографаў, бо сусьлік, як і драхва (глядзі *НН* № 4), — клясычны прадстаўнік стэпавае фаўны. У нас яны жывуць далёка па-за межамі асноўнага арэалу свайго віду, утварыўшы сваю, аўтаномную беларускую папуляцыю.

Вось так.

S.H.

# Дзе нашы ляўрэаты прэміі Нобэля?

*Скептычныя абразкі з Гарадзенскага жыцьця*



«Гарачыя рэчы»

## У вапошні раз

7-га лістапада каля дзядзькі Леніна не было прымусовага тлуму. Купка вабласное намэнклятуры — паводле старое звычкі — паклала да чыгунных чаравікаў свайго стода традыцыйныя гваздзікі. Цікава, што гарадзкое начальства ў гэтай надзіва сьціплай цырымоніі ўдзелу ня брала, затое былі два ці тры генэралы. Па-над апячатаным гаркамам віселі сьцягі колеру марна пралітае крыві.

## Звышкансьпірацыя

Як таямніча паведамляла польскамоўная абвестка ў фарным касьцёле, 10 лістапада мела адбыцца ўрачыстасьць з самадзейным канцэртам з прычыны «ўгодкаў незалежнасьці», але якой незалежнасьці — не паведамлялася. У прызначаны час сабралася з тузін гледачоў, аднак ніякае ўрачыстасьці яны не дачакаліся. Канцэрт адбыўся ажно 12-га. Такім падпольным чынам у нас было адзначана 73-годзьдзе адраджэньня польскае дзяржавы.

## Зблыталі адрас

У другой палове лістапада горад меўся наведаць швайцарскі танцоўны тэатар «Ракаса». Афішы чырвона паведамлялі: «Упершыню ў Расеі!» Далей пералічваліся адрасы гастроляў: Санкт-Петэрбург, Гродна (?!), Мінск!!! Магчыма, у маленькай Швайцарыі, нічога ня чулі пра нашую Беларусь. Рэч аднак у варганізатарах гастроляў — нейкай «міжнароднай» асацыяцыі, пра адрас якой няцяжка здаўмецца.

## Кан-сьпі-ратары!

У друку зьявілася бальшавіцкая заява. Хочуць, маўляў, надалей змагацца за нашую сьветлую будучыню ў сваіх партшэрагах. Увагу гарадзенцаў прыцягнула сярод подпісаў прозьвішча, насупраць якога было пазначана: супрацоўнік шматтыражнае газэты «Рытм». Асабліва, мусіць, зьдзівіліся ў самой рэдакцыі. Хлусьня яна й

# Доктар Міхнюк — «гэты» і «той»

Валяньцін Грыцкевіч

**Перакод ад старога да новага найбольш лёгкі**
**і найменш стратны**
**па «нулявым» варыяньце,**
**калі адбываецца перадача ўсяго і —**
**забудзем крыўды.**
**Што праўда, такі варыянт**
**магчымы толькі тады,**
**калі новае ёсьць,**
**калі яно, прынамсі, роўнае старому.**
**Новая ўлада, навука**
**(новы а мудры гісторык),**
**культура, якая даўгі час сьпела**
**ў падпольлі, а цяпер вось выйшла.**
**І пачалося, паводле Абдзіраловіча,**
**тое «творачы — зруйнуем»,**
**дзе другога тым менш,**
**чым лепш падрыхтаванае новае.**
**У нас, на Беларусі,**
**амаль нічога ня сьпелілася ў падпольлі**
**й зусім мала зьявілася з новымі людзьмі**
**новага пакаленьня.**
**Наша новае вырастае,**
**перараджаецца са старога.**
**Таму й самое новае ў нас амаль спрэс —**
**хамелеонства.**
**Атрымліваецца, што адзіна магчымы**
**для нас поступ грунтуецца**
**на амаральнасьці?**
**Гэта стараюцца прыхаваць**
**словамі кшталту —**
**празрэў, пакаяўся, падняўся над...**
**Гэта глушаць гучнымі дыфірамбамі**
**дэмакратыі, свабодзе, Бацькаўшчыне...**
**А яно ўсё адно відаць.**
**Хамелеонства.**
**Чалавечае асяродзьдзе ў нас**
**працятае парадоксам:**
**чаму так шмат гэтых добрых словаў,**
**але ніякаіх амаль добрых справаў?**
**Чаму заклікаюць тварыць,**
**а самі толькі руйнуюць?**
**Чаму новае не вядзе**
**да новае сітуацыі жыцьця?**
**Можа таму, што яно й ня новае зусім**
**(як, зрэшты, і не старое),**
**а прамежкавае, пераходнае,**
**вечна пераходнае**
**ад чагосьці да нечага**
**(прычым — усё адно, чаго)...**

*Падобны да яшчаркі і той жа велічыні...*
*мяняе свой колер на той,*
*на які глядзіць, апроч чорнага і жоўтага,*
*што мы часта выпрабоўвалі...*
*І калі яго пасадзіць на нейкі колер,*
*а іншы зь іншага боку зьверху трымаць,*
*то на абодва адразу глядзіць,*
*на які потым больш старанна,*
*што вачэй не адвядзе,*
*у той колер зьменіцца.*

**Мікалай Крыштап Радзівіл «Сіротка». Апісаньне паўзуна хамэлеона, якога ён назіраў у 1583 г. у Іопе (пазьней — Яфа, тады ў Палестыне, цяпер у Ізраілі).**

Некаторыя рэчы асэнсоўваюцца не адразу, не тады, калі ўпершыню чытаеш артыкул, а толькі тады, калі яго перачытваеш. Я зьвярнуў увагу на адзін такі артыкул нядаўна.

Уладзімер Міхнюк. «Сумленна служыў народу». Пра Ўсевалада Ігнатоўскага. *ЛіМ*, 17 траўня 1991 году. Па-сутнасьці гэта даклад, які доктар гістарычных навук, прафэсар Інстытута паліталёгіі й сацыяльнага кіраваньня КПБ Міхнюк зрабіў у Акадэміі навук БССР да 110-й гадавіны ад нараджэньня Ўс.Ігнатоўскага.

Пачынаецца артыкул з таго, што грамадзкі дзеяч, навуковец, гісторык Ігнатоўскі ў кастрычніку 1990 г. быў «рэабілітаваны ў партыйным дачыненьні» самім першым сакратаром ЦК КПБ Яфрэмам Сакаловым, на што «не хапіла сьмеласьці й прынцыповасьці нават у такіх аўтарытэтных лідараў партыйнай арганізацыі рэспублікі, якімі зьяўляліся К.Мазураў і П.Машэраў». Далей распавядаецца пра палітыку беларусізацыі першай паловы 20-х гадоў, якой перашкодзілі «антынацыянальныя, беларусафобскія «элемэнты»... імкненьне пэўнай групы асобаў вывесьці з важнейшых пасадаў беларускія кадры».

Аўтар артыкула апісвае, як чарговы зьезд КПБ вылучыў лёзунг барацьбы зь беларускім нацыянал-дэмакратызмам, што прывяло да разгону беларускай інтэлігенцыі; са спачуваньнем нагадвае, як былі арыштаваныя А.Смоліч, А.Цьвікевіч, Я.Лёсік, В.Ластоўскі й яшчэ сотня асобаў зь ліку дзячоў навукі й культуры, якія нібыта належалі да «Саюзу вызваленьня Беларусі». Як піша Міхнюк, першай фізычнай ахвярай гэтага павароту стаў Ігнатоўскі. Пра тое, што вучоны, не чакаючы на арышт, скончыў самагубствам, у вартыкуле не прыгадваецца.

Далей аўтар абвінавачвае тых, хто залічваў Ігнатоўскага на працягу шасьцідзесяці гадоў у чорныя сьпісы лідараў беларускага нацыяналізму. Гэта былі «антыбеларускія, антынацыянальныя сілы на чале з партыйнымі функцыянэрамі ад ідэалёгіі, такімі, як А.Кузьмін, Ю.Сьмірноў, Л.Калыхан і іншыя, (якія) эксплюатавалі створаны ў канцы 20-х гадоў нацыяналістычны вобраз (Ус.Ігнатоўскага. — **В.Г.**)».

«Для падтрыманьня атмасфэры беларусафобіі нястомна працаваў апошнія 15 гадоў доктар гістарычных навук, прафэсар А.Залескі, які, як і яго папярэднік па гэтым рамястве членкарэспандэнт АПН СССР Л.Абэцэдарскі, даўно дыскрэдытаваў высокія тытулы вучонага... У папцы матэрыялаў аб партыйнай рэабілітацыі У.Ігнатоўскага з 227 машынапісных старонак 91 належыць А.Залескаму. Сярод таго шматстаронкавага квазінавуковага сьмецьця часьцей за ўсё сустракаюцца такія ярлыкі-характарыстыкі, як «главарь белорусского национализма», «махровый белорусский националист», «ярый монархист»...

Здаецца, звычайны, як на наш час, артыкул. Але штосьці ў ім ня так. Што менавіта?

У цкаваньні Ігнатоўскага, Смоліча, Лёсіка ды іншых павінныя «антынацыянальныя элемэнты» 20-х гадоў, «партыйныя функцыянэры ад ідэалёгіі» на працягу 60-ці гадоў, Залескі, Абэцэдарскі, і ўсё. І толькі. А ня тая бальшавіцкая сістэма, якая спараджала «элемэнтаў», «функцыянэраў», Залескага і Абэцэдарскага, супраць якіх выступае доктар Міхнюк.

Яшчэ — выпінаецца пракурорскі стыль, у якім Ул.Міхнюк выкрывае тых, хто цкаваў памянёных «нацыяналістаў». Цікава, што гісторыкі, якія больш канкрэтна і, трэба сказаць, больш абгрунтавана крытыкавалі Залескага з Абэцэдарскім, — а менавіта, М.Ткачоў і С.Падокшын, — не дазвалялі сабе такога стылю.

Зрэшты, рэч ня толькі ў стылі.

Усяго за шэсьць гадоў да гэтага артыкула Ул.Міхнюк у сваёй манаграфіі «Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 гг.)» цэлы разьдзел — «Разоблачение взглядов белорусских националистов» прысьвяціў разгрому поглядаў памянёнях Смоліча, Лёсіка, Ластоўскага, Цьвікевіча. Зусім у стылі Залескага і з цытатамі з Абэцэдарскага. Памянёныя гісторыкі, паводле «таго» Міхнюка, «свою антисоветскую работу, выступления против существующего социалистического строя...

* * *

*Праз дні і ночы нас пільнуе страх.*
*на вулках Вільні, і ў тваіх вачах —*
*там толькі ён, заместа рэк і мораў.*
*У мілым доме песьняў не пяюць,*
*а цягнуць нэндзу новую сваю —*
*пра сьмерць і хлеб,*
*і зноў пра сьмерць гавораць.*

*Я выйду ў ноч, пакуль сабе ня веру.*
*я выйду — асьцярожным,*
*чуйным зьверам,*
*каб у дарозе збыць жуду-нуду...*
*І набяжыць з чужых краёў старожа.*
*сказаць пра ўсё — паверыць і паможа.*
*ды я ад страху словаў не знайду.*

Т.С.



# Азіяцкая ноч няволі над «мілым горадам» —

*голад, галеча і тэрор у сяньняшняй Вільні*

**Куды падзелася**
**ўся беларушчына Вільні,**
**якая спрадвеку і аж да мінулае вайны**
**займала значнае мейсца**
**ў жыцьці горада і края?**
**Гэтае пытаньне зноў і зноў**
**задаеш сабе кожнага разу,**
**чытаючы пра старажытнасьць**
**ці пра нашаніўскую пару**
**ці пра беларускую актыўнасьць**
**міжваеннага часу,**
**але бачачы пры тым навокал**
**зусім іншы абраз.**
**Нешта панішчыла пілсудчына?**
**Глябальнае вынішчэньне**
**пасьля 17 верасьня 1939 году**
**правялі Саветы? Потым вайна...**
**У мінулым нумары *НН* пра тыя часы**
**распавяла Зоя Каўшанка.**
**Але ж і ў вайну пэўныя рэшткі**
**беларускае актыўнасьці**
**праяўлялі сябе ў Вільні.**
**Найбагатшы нацыянальны музэй —**
**Віленскі беларускі музэй**
**імя Івана Луцкевіча,**
**традыцыі нацыянальнай школы —**
**Віленская беларуская гімназія,**
**вялізнае мноства беларускіх суполак,**
**так і не паўтораная ў наступныя гады**
**нацыянальная школа журналістыкі —**
**сотні віленскіх беларускіх газэт...**
**Ня можа быць, каб палякі, расейцы**
**й немцы за некалькі гадоў**
**зьнішчылі ўсё гэта.**
**Нечага ў такой лёгіцы ўсё ж бракуе.**
**І гэтае нешта — сьведчаньні людзей,**
**якія былі ў Вільні**
**ў той паваенны час.**
**Адно такое сьведчаньне**
**апублікаваў 1 сьнежня 1946 году**
**ў сваім № 11 беларускі часопіс**
***Шляхам Жыцьця*,**
**які выходзіў у Нямеччыне,**
**у Ватэнштэце.**




Пад такім загалоўкам газэта «Dziennik Polski i Dziennik Żołnierza» зьмясьціла ў № 262 артыкул. Дзеля яго цікавасьці падаем яго ў перакладзе.

Да Нямеччыны ў апошнія гады ўцёк віленчук, які да канца верасьня г.г. пражываў у Віленшчыне. Вось жменька вестак, якія атрыманы ад яго:

Вільня прадстаўляе сяньня вельмі жаласны абразок. Паважна зьнішчаная ў часе баёў, а асабліва праз адступаючых немцаў, яна не падымаецца з свайго ўпадку, ня гледзячы на тое, што фармальна зьяўляецца сталіцаю «Літоўскай Савецкай Рэспублікі». Літоўскасьць Вільні, урэшце, і далей ёсьць нечым зусім тэарэтычным, бо ўсеўладна ўсюды ўрадуюць расейцы. Ня толькі Вільня, але ўся Віленшчына і Літва перапоўнены савецкімі войскамі. Савецкія войскі разьмешчаны нават па маленькіх вёсках і хутарох. З вуліцаў Вільні да гэтае пары ў многіх мейсцах ня зьвезены грузы. Трагічны абразок уяўляюць Віленская і Нямецкая вуліцы. Вуліца Міцкевіча (цяпер Гэдыміна) — таксама мае вялікія шчэрбіны. Сярод разбураных дамоў на вул. Міцкевіча знаходзіцца новы гмах Дзяржаўнае Касы ашчаднасьці. Няма Чырвонага Штраля і готэлю Жоржа. З цукерняў асталіся толькі цукерня Рудніцкага і Зялёны Штраль. Там можна дастаць кепскую каву і цестачкі; дзеля таго, што гэта, аднак, цукерні «І клясы» — мясцовае жыхарства староніцца іх, падобна як і рэстаранаў «першае клясы», якімі зьяўляюцца «Брыстоль», «Зацішша», заўсёды поўныя савецкіх афіцэраў і ўрадоўцаў НКВД.

Віленскія касьцёлы, памінаючы касьцёл сьв. Казіміра, агулам уцалелі. Віленская катэдра непашкоджана. Артылерыйскі снарад зьбіў толькі на аднэй з фігураў, якія стаяць па абедзьвюх старонах крыжа над увaходам у катэдру, галаву. У Вострай Браме, як раней, перад Цудоўным абразом Маці Божае адпраўляюцца службы Божыя. Вострабрамская вуліца пастарому перапоўнена вернікамі.

### 15 тысяч палякоў

Жыхары Вільні — бяз розьніцы, палякі і ліцьвіны — блізу нічым ужо не напамінаюць эўрапэйцаў. Элегантна апранутых людзей няма. Як вопратка — пераважна спатыкаюцца ватоўкі і «фуфайкі», або марынаркі з самадзелу. Скураны абутак заменены валенкамі з гумовым падбіцьцём. Жанчыны, як правіла, носяць хусткі. Кожны чалавек, які адрозьніваецца лепшай вопраткай, наражаецца на кантроль дакумантаў міліцыяй. Вельмі характарыстычным ёсьць тое, што на вуліцах Вільні не відаць моладзі. Пераважна можна спаткаць старэйшых людзей, або дзяцей. Віленская моладзь зьнікла адразу.

Агулам трэба лічыць, што ў Вільні асталося ня больш як 15.000 палякоў, пераважна людзей у старэйшым веку. Ёсьць яшчэ таксама пару дзесяткаў польскіх ксяндзоў, лічба якіх з дня на дзень зьмяншаецца. Хто з палякоў мог выехаць у заходнюю Польшчу — выехаў. Былі вёскі, якія цалкам хацелі выехаць, а сярод іх вёскі выключна з беларускім насельніцтвам. На пачатку гэтыя выезды ў Польшчу адбываліся без вялікіх перашкодаў, аднак, з часам НКВД пачало рабіць перашкоды. Абвешчана было, што выяжджаць могуць толькі тыя, хто ўплаціў усе падаткі, потым — хто аплаціў усе падаткі і здаў усе патрэбныя кантынгэнты збожжа і гародніны. Такім чынам стварылася нешта падобнае да квадратуры кола. Той, хто аплаціў падаткі, ня здаў яшчэ збожжа, хто здаў збожжа, павінен быў ужо плаціць новыя падаткі... Беларускае насельніцтва, якое хацела выехаць, у большасьці вывезена ў глыб Расеі.

Прысланыя з Варшавы шэфы «Польскай Місіі Рэпатрыяцыйнай» таксама не далі сабе рады з НКВД. Першы шэф Місіі Рэпатрыяцыйнай і «паўнамоцнік ураду Р.П.» Ахоцкі — быў у Вільні арыштаваны (!) і засуджаны на 15 гадоў турмы. Праўда, урад п. Осубкі нават не інтэрвэньяваў у справе свайго паўнамоцніка. На месца Ахоцкага прыехаў з Варшавы нейкі п. Урняш, які пасьля двух тыдняў побыту ўцёк назад у Польшчу. Трэці, таксама назначаны дырэктарам Польскага Чырвонага Крыжа ў Вільні — Каліцкі, таксама ўцёк і перабраўся праз граніцу пры дапамозе аднаго з польскіх лясных аддзелаў, укамплектаванага з моладзі, якая сотнямі хаваецца ў лясох. Нарэшце, апошні дэлегат «ураду Р.П.» — Ліпінскі — адмовіўся адразу па прыезьдзе ў Вільню ад свайго становішча і якнайхутчэй вярнуўся ў Варшаву.

### Саланіна і шампанскае

Ня гледзячы на прамысловую прадпрыемлівасьць і гаспадарнасьць ліцьвіноў, — Вільня галадае. Ані ў Вільні, ані ў Коўне няма ніводнае большае прыватнае крамы. У бочных вулачках часам яшчэ можна знайсьці сякія-такія маленькія крамкі, але яны раней ці пазьней будуць зачынены.

Галоўным магазынам для ўсіх у Вільні зьяўляецца дзяржаўны «Гастраном» пры вуліцы Міцкевіча. У гэтым магазыне можна купляць усім, але не для ўсіх аднолькава разьмеркаваныя цэны. Савецкія афіцэры, вышэйшыя ўрадоўцы і энкавэдысты карыстаюцца са зьніжак. Для энкавэдыстаў зьніжкі даходзяць да 90 працэнтаў прадажнай цаны. Урадоўцы маюць сталыя, гэтак званыя «лимитные карточки». Наадварот, работнікі ў «бацькаўшчыне людзей працы» ня маюць ніякіх зьніжак. Плата выкваліфікаванага работніка ў месяц выносіць 500 рублёў. Цэны ў «Гастраноме» ж такія: кг. цукру — 100 руб., кг. саланіны — 140 руб., кг. мяса — 40 руб., піражок — 8 руб. Невядома чаму, «Гастраном» папросту завалены дактылямі. Кілёграм дактыляў каштуе 270 руб. Поўна таксама і шампанскага. Бутэлька шампанскага каштуе 25 руб., бо толькі ў капіталістычных краінах шампанскае для буржуяў. У Расеі работнік мае права да таннага шампанскага.

### Вольныя ліцьвіны і НКВД

Цэлая Вільня, Віленшчына і Літва дрыжаць перад савецкім тэрорам. Ахвярамі гэтага тэрору пераважна зьяўляюцца ліцьвіны. Бо палякоў асталося ўжо мала. Гэта станоўча ўплыло на зьмену адносінаў ліцьвіноў да палякоў. Ліцьвіны горнуцца да палякоў і ў кожнай гутарцы падчырківаюць, што без праўдзівай і незалежнай Польшчы — ня будзе Літвы. Літва гіне, а яе народ масава вывозіцца ў Расею. Хто выразна не дэкляруе свайго становішча, хто дэманстрацыйна не падчырківае свае лёяльнасьці да марыянэткі — Палецкіса, раней ці пазьней згіне. На астатку быў арыштаваны і вывезены ў Сібір былы прэм'ер Літвы, вядомы кс. Міронас.

### Літоўская моладзь масава ўцякае ў лясы

Мой інфарматар цьвердзіць, што літоўскія партызаны вельмі лічныя і добра зарганізаваныя. Лясная партызанка супрацоўнічае з латыскаю і эстонскаю партызанкаю. У лясох Віленшчыны хаваюцца аддзелы г.зв. «Вольных Ліцьвіноў».

«Вольных Ліцьвіноў», калі іх зловіць НКВД, — жорстка мардуюць. Трупы забітых, як правіла, складаюцца ў вёсках і мястэчках на відным месцы. У вапошнія часы ў Аліце дзесяць дзён ляжалі трупы 40 ліцьвіноў. Іх забралі, калі яны дашчэнту расклаліся.

Гэта ёсьць змаганьне на сьмерць і на жыцьцё. Ліцьвіны цьвердзяць, што другога выбару для іх няма. Яны адказваюць забойствам за забойства, нішчаць меншыя аддзелы і савецкія патрулі. Вільня пры гэткай сытуацыі зрабілася велізарным цэнтрам НКВД на балтыцкія краіны. 80 найбольшых дамоў Вільні займае НКВД. Усюды падвалы перапоўнены арыштаванымі.

Такая сапраўднасьць Вільні і Віленшчыны.

Рышард Керсноўскі

## Зьмітрок Фалькоўскі



* * *

*Дваццаты дзень змарнелыя ішлі,*
*Пытаючы дарогу, навабранцы.*
*На раньнім сонцы зіхацелі глянцам*
*Пустыя ранцы іх і пасталы.*
*Зялёны чэрвень засьцілаў сталы...*
*І ўмомант зьніклі бліндажы і шанцы,*
*Далёкія агні далёкіх станцый*
*Дзе столькі год у злыднях пражылі.*
*Праз доўгі час зьняверанньня й няволі*
*Жывіла іх апошняя з надзей,*
*Што калі-небудзь прыйдзе лепшы дзень,*
*Калі, няхай бяз хлеба і бяз солі,*
*Зь іх кожны зноў разору правядзе*
*Бліскучым плугам па знаёмым полі.*

1927



## Гіём Апалінэр



**Адначасовасьці**

*У цямночы гарматаў пальба*
*Быццам хвалі разьятраных сэрцаў*
*Дзе вялікая сьпее журба*
*Ад якое нікуды ня дзецца*

*Паглядае яна з-пад рукі*
*На прывабу часоў недасяжных*
*Ў гэтым громе вялікім які*
*Над зямлёю расьце незаўважна*

*Вунь яна зьняўшы каску ўспамін*
*Пра лілею вітае пра ружу*
*Пра квітучы за Сенай язьмін*
*Што пялёсткі на сьцежкі цярушыць*

*І пад каскай яна ўсё адно*
*Валасоў хвалі цёмныя мроіць*
*Той што ўжо не чакае даўно*
*О лілёвасьць вялікага мора*

*Спарышы прыгажосьці зь ляшчын*
*Марна вас абівае Шал гэткі*
*Тых сініц што ў цябе на плячы*
*Перазовы зьвіняць для брунэткі*

*Наша любасьць прамень Напрасткі*
*Ён з пражэктара сэрцаў шыбае*
*Да нязгаснага палу які*
*Вышыні маяка дасягае*

*О маяк маіх згадак О дым*
*Чорны дым валасоў Магдалены*
*Бляскі стрэлаў у змроку начным*
*Дадаюць сваю сьветласьць нязьменна*
*Тваім пекным вачам Магдалена.*

## Адам Міцкевіч



**Сьмерць палкоўніка**

*У глухім гушчары перад плотам*
*Лесьнічоўкі старой стала рота;*
*А ў дзьверах стаіць бледны ахоўнік —*
*Там, у хатцы, канае Палкоўнік.*
*Зь вёсак зьбегліся людзі: няйначай*
*Быў вялікай ён моцы і славы,*
*Калі так прасты люд па ім плача*
*Й пра здароўе пытае, цікаўны.*
*Загадаў асядлаць наастачу*
*Ён каня — і ў пакой яго ўводзяць,*
*Каб шчэ раз ён таварыша ўбачыў,*
*Неабходнага ў кожнай прыгодзе.*
*Загадаў даць мундур свой стралецкі,*
*І штылет свой, і пас, і ладункі;*
*Вой стары — хоча ён, як Чарнецкі,*
*Перад сконам зірнуць на рыштункі.*

*Пасьля розьвітаў гэтых у дзьверы*
*Ксёндз вясковы ўвайшоў з П[illegible] Богам;*
*І ад жалю зьбялелі жаўнеры*
*І ўсе ўкленчылі перад парогам.*
*Нават воі Касьцюшкі, што ў бітвах*
*Сто разоў сваю кроў пралівалі*
*Без адзінай сьлязы — не стрывалі*
*І ў сьлязох паўтаралі малітвы.*

*У капліцы біў звон на сьвітаньні;*
*Кінуць хату стральцам давялося,*
*Бо маскаль у ваколіцы гойсаў.*
*Увайшлі да героя сяляне.*
*Ён ляжаў у куце на тапчане —*
*У руках сьвяты крыж, а пры боку*
*Яго верныя нож, дубальтоўка.*

*Але хоць і ў жаўнерскім убраньні,*
*Быў у лыцара твар надта гожы*
*І высокія грудзі... Ах, Божа,*
*Там дзяўчына, ліцьвінка бы́ла там!*
*Каманьдзерка — Эмілія Плятар!*

1832

Пераклаў з украінскае, французскае й польскае А.М.



**Хорхэ Луіс Борхэс**

# РУЖА ПАРАЦЭЛЬСА

La Rosa de Paracelso. De Quincey. Writings, XIII, 345

У сваёй майстэрні, што займала два пакоі ў склепе, Парацэльс маліў свайго Бога, свайго невымоўнага Бога, хоць нейкага Бога, каб той паслаў яму вучня. Вечарэла. Убогае полымя каміну кідала хісткія цені на сьцены. Надмерным высілкам было ўстаць і запаліць жалезную лямпу. Зможаны стомаю, Парацэльс забыўся пра сваё маленьне. Ноч ужо ахінула запыленыя алембікі й шкляныя руркі, калі нехта пагрукаў у дзьверы. Прыснулы гаспадар устаў, падняўся кароткай кручанай лесьвіцай і расчыніў палавінку дзьвярэй. Увайшоў незнаёмы. Ён таксама быў вельмі стомлены. Парацэльс паказаў яму на лаву; той сеў і сьцішыўся ў чаканьні. Нейкі час абодва маўчалі.

Майстар загаварыў першы.

— Я памятаю твары Захаду й твары Ўсходу, — сказаў ён самавіта. — Твайго ня памятаю. Хто ты такі й чаго ад мяне хочаш?

— Маё імя нічога табе ня скажа, — адказаў той. — Тры дні й тры ночы вандраваў я, каб увайсьці ў твой дом. Я хачу быць тваім вучнем. Аддаю табе ўсё, што маю.

Ён дастаў вузкі даўгі ворак і перакуліў яго на стол. Манэтаў было шмат, і яны былі залатыя. Ён зрабіў гэта правай рукою. Парацэльс быў адвярнуўся, каб запаліць лямпу. Павярнуўшыся, ён заўважыў, што ў левай руцэ незнаёмы трымае ружу. Ружа яго зьдзівіла.

Ён аблегся ў фатэлі й сказаў, склаўшы пальцы:

— Ты лічыш, што я здольны вынайсьці камень, якіператварае ўсе рэчывы ў золата, і прапануеш мне золата. Я ня золата шукаю, і калі цябе абыходзіць золата, ты ніколі ня будзеш маім вучнем.

— Золата мяне не абыходзіць, — адказаў той. — Гэтыя манэты — толькі зарука майго жаданьня працаваць. Я хачу, каб ты навучыў мяне Мастацтву. Хачу прайсьці побач з табою шлях, што вядзе да Каменя.

Парацэльс адказаў павольна:

— Шлях — гэта Камень. Зыходны пункт — гэта Камень. Калі ты не разумееш гэтыя словы, дык ты яшчэ не пачаў разумець. Кожны зроблены крок — гэта мэта.

Незнаёмы паглядзеў на яго недаверліва й спытаўся выразным голасам:

— А ці ёсьць увогуле мэта?

Парацэльс засьмяяўся.

— Тыя, што ганяць мяне, а дурасьць іхная ня меншая за іх колькасьць, кажуць, што яе няма, і называюць мяне ашуканцам. Я зь імі ня згодны, але магчыма я й памыляюся. Я ведаю, што «ёсьць» Шлях.

Яны памаўчалі, тады незнаёмы сказаў:

— Я гатовы прайсьці яго з табою, хай бы нам і давялося йсьці доўгія гады. Дазволь мне глянуць хоць бы здалёк на сьвятую зямлю, хай бы зоркі й не наканавалі мне ў яе ступіць. Хачу толькі нейкага доказу, перш чым выправіцца ў шлях.

*(Працяг на старонцы 10)*

дарагі батона прэзыдэнт. «Хай смутак ніколі ня росіць вачэй тваіх добрых і ясных», — выплываюць на памяць словы зь ліста беларускага народу да вусатага суайчыньніка дарагога батона прэзыдэнта.

Тамсама на першай старонцы пад партрэтам дарагога падвярстаны ліст армянаў, якія дзякуюць «и лично дорогому президенту» за адкрыцьцё ў грузінскай школе армянскае клясы.

Учора ўвечары, калі далі электрычнасьць, па першай праграме TV паведамілі, што ў Тбілісі за арганізацыю забастоўкі арыштавалі старшыню грузінскага дзяржтэлерадыё і яшчэ дзевяць апазіцыянэраў. Тэлежурналісты па-ранейшаму бастуюць, і па тбіліскай праграме ідуць адно інфармацыйныя выпускі і амэрыканскія баявікі. У вечаровым выпуску паказваюць мітынг. На ім выступаюць. прыгожая жанчына ў чорных панчохах, непрыгожая жанчына ў чорных панчохах і з вусамі, неінтэлігентны мужчына ў чорных акулярах з падазрона аттутураным крысом пінжака і сам батона прэзыдэнт. Ён чыста выгалены, але ўсё адно цяжка пазбыцца моцных асацыяцый з фідэлеўскай смаляной барадою. Над натоўпам падымаецца збой партрэтаў дарагога батона.

Пасьля інфармацыйнага выпуску круцяць вэстэрн пра індзейцаў, які, мусіць, нідзе, апрача Абх. ССР (ці незалежнай РГ), ня ўбачыш.

Фільм ідзе па-ангельску, унізе паўзуць гіярогліфы японскіх субтытраў, за кадрам гучыць пераклад то на грузінскую, то на расейскую, то на нейкую зусім незнаёмую мову. Напэўна, паказ наладжаны адмыслова дзеля дарагога прэзыдэнта, які ведае зь дзесятак моваў.

З боку Турцыі хвалі павольна падганяюць два бервяны й яшчэ нешта незразумелае.

Яшчэ адна філіжанка за туркаў, і неўпрыкмет я апынаюся ў смузе колеру разбаўленага цынандалі. У ёй пачынае вымалёўвацца нейкая выснова. Вось зараз я ўхаплю яе за хвост, але...

Але ў гэтай залаціста-празрыстай смузе — быццам кагадзе сыйшоў з тэлеэкрану — па пляжы сунецца ў белых штанах генэрал КГБ Алег Данілавіч Калугін. Ён без накладной барады і чорных акуляраў і відавочна не падобны да зацкаванага людзьмі Гамсахурдзіі агента (хай сабе і адстаўнога) варожай дзяржавы. Значыцца, я ўсё ж у Абх. ССР.

— Господин Калугин! — гукаю я, падымаючыся зь бервяна.

Ён ня ўздрыгвае і не палохаецца. Здаецца, яму нават прыемна, што яго пазналі. Генэрал стаміўся безь вядомасьці, ваюючы на таемных франтах барацьбы зь імпэрыялізмам.



— Г-н Калугин! Интервью для белорусской газеты «Наша Ніва»! Первый вопрос: Вы прибыли сюда в качестве агента Кремля?

Генэрал абліვае нахабу ліпуча-чэпкім позіркам і дастае з кішэні асадку «паркер». Мяне працінае: вось стрэліць зараз якой-небудзь атрутнай стралой...

— Так вы из Минска? — Ён хавае «паркер» у кішэню. — Что-то вы не очень похожи на белоруса.

Ніякіх дакумантаў у мяне з сабою няма, і замест іх я пачынаю чытаць генэралу верш Рыгора Іванавіча Барадуліна:

*Трэба дома бываць часьцей,*
*Трэба дома бываць ня госьцем...*

— Это намек? — пытаецца пільны спадар Калугін.

Я прапаную яму разбаўленага цынандалі маўляецца. Магчыма, прычына ў тым. што філіжанка ў мяне адна, а йсьці да Боры па другую ня хочацца. Банальная ідэя наконт інтэрвію ўжо пакінула мяне.

імя Боры Гальперашвілі. Генэрал ад-
Ну, пайшоў ён уворганы адразу пасьля філфаку Ленінградзкага унівэрсытэту (ці не пастукваў, як быў студэнтам?). Ну, сядзеў на «дыпляматычна-журналісцкай» пасадзе ў ЗША, закупляючы рэдактараў эміграцкіх выданьняў. Ну, выдаваў пад псэўдонімам «О.Кедров» свае кніжкі, дзе выкрываў акулаў капіталістычнага сьвету. Ну, ажаніўся зь Людмілай Віктараўнай (яна ўжо зьявілася на даляглядзе й занепакоена набліжаецца да нас у штанах колеру бэж). Ну, працуе яна, скончыўшы пэдынстытут, у інстытуце ЗША і Канады. (Мы й так ведаем, што якраз у пэдынстытутах і рыхтуюць гэткіх спэцыялістаў.) Усё гэта неістотна.

Новую філіжанку я п'ю за генэрала Калугіна, найлепшага з усіх прадстаўнікоў ягонага ведамства, якіх я дагэтуль ведаў. Ён не паказваў мне сваёй корачкі, не выклікаў мяне ў бюро прапускоў, не казаў пра «нагнетание националистических страстей в некоторых рассказах». Урэшце, нават апазнаў не ён мяне, а я яго.

За вас, генэрал!

Людміла Віктараўна таксама адмаўляецца ад цынандалі, і яны аддаляюцца ўздоўж шампаністага прыбою. Іхні ўлюбёны адпачынак — дваццацікілямэтровая прыморская прагулянка.

За вас, Алег Данілавіч і Людміла Віктараўна!

Як кажуць у вас у Расеі, скатертью дорога!

Я гляджу на мора. Таямнічая рэч, якую несьлі хвалі, ужо блізка. Гэта абшарпанае драўлянае крэсла. Напэўна, яго таксама прыслалі турэцкія пралетары, прачытаўшы ў газэце, што ў нас крызіс з мэбляю. Я выцягваю аблупленае крэсла з вады і кладу яго на жвір сушыць.

У яго толькі тры нагі, але на ім можна сядзець, што я й раблю, дапіваючы за турэцкіх пралетараў апошнія глыткі. На ўсялякі выпадак я пералічваю грошы і гляджу на Бору. Крэсла, як быццам прадчуваючы хуткае расстаньне назусім, ня хоча адпускаць мяне.

Паміж мною і Борам адбываецца трэйці дыялёг.

— Кто этот человек? — ён ківае ў той бок, куды пайшоў генэрал.

— Это Калугин, — адказваю я. — Ну тот, генерал КГБ.

— ... и... КГБ... — кажа Бора.

За час, пакуль я гаварыў з генэралам і сушыў турэцкае крэсла, у «Бары» прычынілася падвышэньне коштаў на цынандалі і на хачапуры, аднак мне, як старому кліенту, Бора адпускае яшчэ па старым кошце. Ягоны позірк раптам робіцца загадкавы і скіраваны некуды паўзьверх майго пляча.

Я адварочваюся ад стойкі і бачу побач са сваім крэслам нейкага чалавека.

— Эй! — вясёла крычыць ён. — Это твоя стула?

— Моя!

— Можно, я заберу?

— Нельзя!
— Спасибо! — крычыць незнаёмы грамадзянін Абх. ССР (ці незалежнай РГ), пасылае мне пераможны позірк і, прытуліўшы да грудзей турэцкае крэсла, шпаркай ступою кіруецца ў кіпарысавыя прысады.

На пічасьце, захапіць з сабою маё цёплае бервяно ён ня здолеў. Я прыхінаюся да яго, расьсьцілаю газэту «Вечерний Тбилиси», кладу побач з партрэтам Гамсахурдзіі свой трэйці хачапуры, дзякую Бору і асабіста дарагому прэзыдэнту і пагружаюся ў залацістую смугу.

Перада мною мора, усьцяж якога шпацыруе генэрал Калугін. За мною горы, за якімі сядзіць генэрал Дудаеў. Галаваломнае пытаньне Абх. ССР і незалежнае РГ абрастае новымі варыяцыямі: Грузія ўваходзіць у Абхазію, СССР выходзіць з Грузіі, я выходжу з СССР, СССР выходзіць зь мяне...

Чамусьці ад усяго гэтага мяне наведвае вострыпрыступ самоты. Сьвет здаецца страшэнна няпэўным і крохкім. Ён гатовы абрынуцца на мяне і пахаваць пад сваімі руінамі. Шукаючы духоўнага апірышча, я гляджу на філіжанку з адбітым вушкам. Яшчэ імгненьне, і ад роспачы я загавару зь ёю па-беларуску, спраўдзіўшы адрэдагаванае абяцаньне Лёні Дранько-Майсюка.

І тут з залацістае смугі прыходзіць паратунак. З гэтае смугі колеру разбаўленага цынандалі імя Боры Гальперашвілі выплывае выснова, якая ўкладваецца ў тры словы: Гамсахурдзія — наш чалавек.

Каб не забыцца, я пішу іх на вільготным пяску буйнымі літарамі:

ГАМСАХУРДЗІЯ — НАШ ЧАЛАВЕК.

Праз хвіліну мне здаецца, што гэта ня надта патрыятычна, і побач я дапісваю:

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

Сьвет вакол мяне зноў набывае ўстойлівасьць і надзейнасьць.

— Гамсахурдзія — наш чалавек, — уголас прамаўляю я, дажоўваючы апошні кавалак гумовага хачапуры і запіваючы яго апошнім глытком Боравага цынандалі, у чыім непаўторным букеце прысутнічае хлёрка.

Няроўны белы язык хвалі ліжа мой надпіс. На пяску застаецца толькі: **НАШ БЕЛАРУСЬ!**

Даволі доўга я гляджу на гэтыя шматзначныя словы з каўкаскім акцэнтам. Потым падымаюся і йду да Боры.

Надыходзіць чульлівая хвіліна разьвітаньня. Я люблю Бору Гальперашвілі і адчуваю патрэбу сказаць яму нешта цёплае. Наш чацьверты дыялёг зусім кароткі.

— Калі ты прыедзеш на Беларусь, — кажу я, — цябе будуць зваць Гальпяровіч.

Не азіраючыся, каб не пусьціць скупую мужчынскую сьлязіну, я іду ў авіякасу.

Лістапад, 1991.

які схаваны ад нас празь першародны грэх. Я кажу пра слова, якое вучыць нас навуцы Кабалы.

Вучань адказаў безуважна:

— Прашу ў цябе міласьці паказаць мне зьнікненьне й зьяўленьне ружы. Мне ня йстотна, чым ты гэта ўчыніш — рэтортамі або Словам.

Падумаўшы, Парацэльс сказаў:

— Калі б я гэта зрабіў, ты сказаў бы, што маеш справу з выяваю, выкліканай падманам зроку. Цуд ня даў бы табе веры, якой шукаеш: дык пакінь ружу.

Маладзён паглядзеў на яго зь недаверам. Майстар узьняў голас і сказаў:

— А ўвогуле, хто ты такі, каб увайсьці ў дом майстра й патрабаваць ад яго цуду? Што зрабіў ты, каб заслужыць гэткага падарунку?

Той адказаў дрыготкім голасам:

— Я ведаю, што не зрабіў нічога. Прашу цябе ў імя доўгіх гадоў, якія я правучуся ў тваім ценю, каб ты даў мне пабачыць попел, а пасьля ружу. Больш ні пра што ня буду цябе прасіць. Паверу сьведчаньню маіх вачэй.

Ён раптоўна схапіў пунсовую ружу, якую Парацэльс быў паклаў на пюпітры, і кінуў яе ў полымя. Кветка зьнікла, засталася толькі жменька попелу. Бясконцую хвіліну ён чакаў словаў і цуду.

Парацэльс заставаўся непарушны. Зь дзіўнай простасьцю ён сказаў:

— Усе мэдыкі й аптэкары ў Базэлі цьвердзяць, што я ашуканец. Відаць, яны маюць рацыю. Вось попел, які быў ружаю й ніколі ёю ня будзе.

Юнаку зрабілася сорамна. Парацэльс быў шарлатанам або простым летуценьнікам, а ён, нязваны, уварваўся да яго і вымушаў цяпер прызнацца, што ягоныя славутыя цудадзейныя ўменьні — пусты падман.

Ён укленчыў і сказаў:

— Я ўчыніў недаравальнае. мне не ставала веры, якой патрабуе Госпад ад сваіх верных. Хай я заўсёды буду бачыць толькі попел. Я вярнуся, калі буду мацнейшы, і станусся тваім вучнем, і ў канцы Шляху я пабачу ружу.

Ён гаварыў са шчырым запалам, але запал гэты быў абуджаны шкадаваньнем да старога майстра, такога шанаванага й ганьбаванага, такога славутага і ўрэшце такога пустога. Хто такі ён, Ёган Грызэбах, каб сьвятакрадна выявіць, што за маскаю нікога няма?

Пакідаць грошы не выпадала. Выходзячы, ён сабраў іх назад у ворак. Парацэльс правёў яго да падножжа лесьвіцы й сказаў, што заўсёды будзе рады яму ў сваім доме. Абодва ведалі, што ніколі больш не пабачацца.

Парацэльс застаўся адзін. Перш чым згасіць лямпу й сесьці ва ўтульны фатэль, ён высыпаў жменьку попелу сабе на далонь і ціхім голасам сказаў адно слова. Ружа ўваскрэсла.

Пераклаў з гішпанскай SS.



## Novaja Kulturnaja Situacyja

Što adbyłosia i što adbyvajecca siońnia, myślicca jak Novaja Kulturnaja Situacyja.
Heta toj krajavid, jaki pačynajecca za voknami našaha ciahnika.
My jašče nia ŭbačyli jaho jak krajavid, bo našuju ŭvahu pryciahvaje milhacieńnie niazvykłych budynkaŭ i drevaŭ, jakija tak raptoŭna źjaŭlajucca i źnikajuć za vaknom.
Niečakanyja košty, paradki, dziŭnyja miždziaržaŭnyja pahadnieńni, adstaŭki, rejtynhi, abiacańnie vajny... My hladzim na ŭsie vočy, i novy pejzaž vyhladaje spantanna i chaatyčna.
Ale tam, za budynkami j drevami, za plakatami j pomnikami, za ŭsim hetym strakacieńniem chto zachoča, užo moža ŭbačyć pavolnuju liniju dalahladu, pahorki, nad jakimi ŭstaje sonca.
Heta Novaja Kulturnaja Situacyja, u jakuju zajaždžaje naš šumlivy ciahnik. My musim pryniać jaje, a jana nas.
Pobač u vahonie niechta natužliva kryčyć pra patrebu adradžeńnia, niechta — pra daremna pražytaje žyćcio, niechta — pra apatyju mas. Tut adnyja kličuć da zmahańnia z druhimi, a trejcija dbajuć pra vyhodnaje miejsca ŭ novaj herarchii bahatych i biednych...
Ale ŭsio heta — čmurnyja nastroi na prykancy doŭhaha padarožža.
Neiŭzabavie ciahnik spynicca, i kožny pojdzie ŭ svoj bok. Chto da vahzalnaje pačakalni, chto ŭ milhacieńnie adstavak i rejtynhaŭ, a chto — da pavolnych pahorkaŭ, nad jakimi ŭstaje sonca.

*Выданьне гэтага нумару НН ажыццёўленае дзякуючы фінансавай падтрымцы Беларускага Фонду Культуры*

## Радыё «Свабода»

**Беларуская праграма**

У нашай праграме прапануем вам сусьветныя навіны і палітычныя камэнтары на міжнародныя тэмы.
Весткі зь беларускіх гарадоў і вёсак, і пра беларускае жыцьцё за мяжой ды на эміграцыі.
Паведамленьні, камэнтары і аналізы, падрыхтаваныя нашымі мясцовымі карэспандэнтамі.
Рэлігійныя гутаркі і сэрыі на беларускія гістарычныя і культурныя тэмы.



| штодня а гадзіне | на хвалях |
|---|---|
| 6.00—7.00 | 25,31,41,49 м. |
| 7.00—8.00 | 25,31,41,49 м. |
| 17.00—18.00 | 25,31,41,49 м. |
| 20.00—21.00 | 25,31,41,49 м. |

Адрас для карэспандэнцыі:
**Postfach 221425, D-8000 Muenchen, Germany — Нямеччына**

## Фірма АГУЛ прапануе:

- •Будаўнічае праектаваньне новых і рэканструкцыю старых будынкаў, збудаваньняў і інжынэрных сістэмаў: вэнтыляцыі, ацяпленьня, цепла- і водазабесьпячэньня, каналізацыі.
- •Сантэхнічнае абсьледваньне вэнтвыкідаў.
- •Вызначэньне нормаў дапушчальных выкідаў і кантроль ГДВ.
- •Пуска-наладку вэнтсыстэмаў на праектныя расходы паветра.
- •Выпрабаваньне й наладку пылагазалавільных установак.
- •Складаньне экалягічных пашпартаў.
- •Выканаўчае складаньне дакумэнтацыі цепласетак.
- •Наладку сістэмаў цеплазабесьпячэньня і цепласпажываньня.
- •Наладку кантрольна-вымяральных прыбораў і аўтаматыкі.
- •Складаньне каштарысаў на праектныя работы, экспэртыза каштарысна-дагаворнай дакумэнтацыі.
- •Распрацоўку статутаў МП і таварыстваў з абмежаванай адказнасьцю.

***Наш адрас: 220131, Менск-131, п/с 417. Тэл. 61-21-78 / 65-78-00.***

**Генадзь Сагановіч**

## НЕВЯДОМАЯ ВАЙНА

**Невядомая вайна — гэта вайна з Маскоўскай дзяржавай 1654-1667 гадоў, самая стратная для Беларусі за ўсю яе гісторыю.** Акупанты зьнішчылі кожнага другога жыхара нашага краю, разрабавалі ды зруйнавалі амаль усе беларускія гарады й вёскі...

*Гісторык Генадзь Сагановіч на груньце архіўных зьвестак аднавіў карціну таго часу, распавёў пра жорсткія бітвы, пра ганебную чыннасьць маскоўскіх акупантаў на беларускай зямлі, пра абарончыя дзеяньні беларускага войска й беларускіх партызанаў...*

Калі вам патрэбная такая кніга, паспрыяйце яе выданьню. Дзеля гэтага ў любой кнігарні можна аформіць паштоўку-замову. Кнігу «Невядомая вайна» ў 1992 годзе плянуе выпусьціць менскае выдавецтва

«БЕЛАРУСЬ»

# Ад Рэдакцыі

### Ахвяраваньні

**На выданьне НН ахвяравалі:**
*Генрых Вярцінскі* з Украіны **30 р.**
*Вітаўт Ермалёнак* зь Мёраў **20 р.**
*Сяржук Х.* з Жодзіна **10 р.**
*Соф'я Фейгіна* з Гомля **40 р.**
*Валяньцін Стэх* зь Вільні **25 р.**
*Клюб «Сябрына»* зь Вільні **100 р.**
*Ермаловіч і Каробка* з Фаніпаля **25 р.**
*І.Ярош* з Барысаўскага раёну **25 р.**
*Уладзімер Аляксееў* зь Менску **100 р.**
*Р.Грудніцкі* з Наваполацку **50 р.**
*Валеры Палсьцюк* зь Менску **60 р.**
*Т.Ермаловіч* з Койданава **25 р.**
*Б.Родзіч* зь Менску **30 р.**
*Галіна Кароль* зь Менску **30 р.**

**Вялікі дзякуй!**

**Шаноўныя чытачы, калі Вы хочаце й можаце дапамагчы ў выданьні *Нашае Нівы*, дапамажыце.
Фундацыю на *НН* трэба пераказваць поштай на адрас:**

232051, Вільня, а/с 2425, Кардзіс Людвіка,
ці
220131, Менск, а/с 229, Чубрык Кася

альбо на наш фінансавы адрас:

Камэрцыйны банк «Vilniaus bankas»,
рахунак № 3467685,
код 260101777,
Закрытае акцыйнае таварыства
«Наша Ніва».

### Паштовая скрынка

Рыгору Г. з Наваполацку. Прафэсіяналізацыя беларушчыны — ня толькі ў фінансавай незалежнасьці, хоць гэта й істотна. І ня толькі ў «падключэньні» дзярж. установаў, хоць і гэта неабходна. Прафэсіяналізацыя яшчэ і ў пераадоленьні тае прорвы, якая падзяляе нашыя пафасна-ўзьнёслыя адносіны да Бацькаўшчыны і нашае ж рэальнае жыцьцё... Мы са зьдзіўленьнем адкрываем для сябе ўласную краіну — Эўфрасіню з роду Ўсяслава, імклівую Пагоню, трапяткое роднае слова... і, натуральна, прагнем падзяліцца сваім уражаньнем, замілаваньнем, гонарам зь іншымі. Тут і чакаюць нас досыць частыя няўдачы. Адныя тады думаюць пра фін. незалежнасьць, каб і далей захапляцца, хай сабе толькі для сябе. Другія — пра дзяржаўныя ўстановы, каб сілай закону «перадаваць» сваё захапленьне іншым. Трэйція пранікаюць, скажам так, у самую беларушчыну, становяцца яе працягам у сучаснасьці, пераацэньваюць яе і інтэрпрэтуюць так, каб яна апынулася на другім беразе прорвы — у рэальным жыцьці. Беларушчына — не сукупнасьць формулаў новае ідэалёгіі, а магчымасьць тварыць.
А.К. зь Менску. Верш слабы.
Андрэю Г. з Ольштыну. Вашая інфармацыя састарэла, але чакаем новых. Пішыце, як жывеце.
Віктару Н. з Масквы. У Вашай «фантазіі» не ўказана, колькі Вы плянуеце чалавечых ахвяраў з абодвух бакоў... А наогул, усё гэта ўжо было. Напісалі б пра тое, што будзе пасьля перамогі.

### Шляхецтва

**Сёньня гэта — забава,
а заўтра, магчыма, —
эканамічная праблема.
Калі Вашыя продкі — шляхецкага роду,
і Вы хочаце мець выяву
свайго гербу,
генэалягічную схему
ды іншыя дакуманты пра свой род —
мы дапаможам Вам.
Узгадайце хоць бы некалькі імёнаў
Вашых продкаў (дзядоў і прадзедаў),
мяйсцовасьць іхняга паходжаньня
ці зямельных уладаньняў,
назву герба.
Узгадайце
і разам з дакладным напісаньнем
Вашага прозьвішча
дашліце нам,
на адрас Рэдакцыі.
Вы абавязкова атрымаеце адказ.
Пры наяўнасьці паштовага пераказу
на 25 р.
наш архівіст адразу пачне пошук.
Калі Ваш радавод зацікавіць рэдакцыю
й Вы самі ня будзеце супраць,
мы надрукуем матэрыялы ў газэце.
У іншым выпадку
за дадатковую аплату
мы дашлём Вам матэрыялы
пэрсанальна.**

### Падпіска

*Наша Ніва* — газэта для Вас і Вашых сяброў. Каб падпісацца на *Нашу Ніву*, перашліце адвольную суму грошай на адрас: **232051, Вільня, а/с 2425, Кардзіс Людвіка**, альбо **220131, Менск, а/с 229, Чубрык Кацярына.** Калі Вы атрымаеце нумароў на дасланую суму, мы паведамім Вам, што падпіску трэба працягнуць. Калі Вы жывеце ў Польшчы, грошы трэба пералічыць на конта **5526-80725-136 II PKO Białystok. Pismo Informacyjno-Kulturalne Wschodniej Białostocczyzny** *Czasopis* **(dla** *Našaje Nivy*). Кошт аднаго нумару 1000 злотых. Штосьці ўдакладніць можна па адрасе: 15-950 Białystok, ul. Suraska, 1. P.skr. 149. Tel. 210-33. У астатнім сьвеце падпіску зьбірае Сяргей Карніловіч з Кліўленду па адрасе: Byelarusian-Amerikan Community Center "Połacak", 11022 Webster Road, Strongville, OH. 44130, U.S.A. Attn: Mr. S.Karniłovič.

**Наша Ніва
Naša Niva**

**Беларуская газэта
заснаваная ў 1906 г.
адноўленая ў 1991 г.**

**Рэдакцыйная Рада
Выдавец Павал Жук
Закрытае Акцыйнае Т-ва «Наша Ніва»**

**Адрас для допісаў:
232041, Вільня, а/с 2082
Адрас для грашовых пераказаў:
232051, Вільня, а/с 2425. Кардзіс Людвіка.**

**Афсэтны друк.
Друкарня МАУ.**

Замова